# ЧАЦЬВЕРТАЯ РЭСПУБЛІКА

Беларуская гісторыя дасягнула таго маштабу падзеяў, калі ўжо ствараецца пэрыядызацыя сваіх палітычных рэжымаў. Адначасова адбываюцца мэтамарфозы з адпаведнымі тэрмінамі — ужываньне ў звыклай сытуацыі робіцца неадпаведным іх дакладнаму сэнсу. Адно з такіх словаў — рэспубліка.

Дэфармацыі тэрміну адбыліся яшчэ ў савецкую эпоху, калі замест дзяржаўнага ладу рэспубліка стала пазначаць адміністратыўна-тэрытарыяльную адзінку. БССР — усяго толькі назва правінцыі. Гэтага сындрому падмены паняцьцяў у Беларусі 90-х пазбаўляліся доўга, пакуль нарэшце нават у афіцыйнай прэсе не замацавалася слова краіна. Якая, у такім разе, функцыя застаецца за словам “рэспубліка”?

Для Беларусі XX стагодзьдзе — гэта век рэспубліканскай традыцыі. У палітычным сэнсе сам знак Беларусь атаясамляецца з Рэспублікай — абвешчанай у 1918 годзе, акупаванай у тым жа годзе, новай Рэспублікай, створанай у 1991 годзе. Ранейшая гісторыя нашай краіны зьвязана зь іншым знакам — Літва, і іншай юрыдычнаю традыцыяй — афіцыйна манархічнай. Бо Статуты замацоўвалі ў Вялікім Княстве манархічны лад. Нават парлямэнтарызм Рэчы Паспалітае й рэспубліканскія памкненьні шляхты ня здолелі зьнішчыць гэтую юрыдычную норму. У канцы XVIII ст. манархічныя тэндэнцыі ў Рэчы Паспалітай нават узмацніліся, і Канстытуцыя 3 траўня 1791 году абвясьціла спадчыннасьць трону ўзамен ранейшаму абраньню караля.

Такім чынам, Першая рэспубліка ў Беларусі — гэта БНР. Другая рэспубліка праіснавала ад 25 жніўня 1991 году, калі “Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі” быў нададзены статус канстытуцыйнага закону, да 15 сакавіка 1994 году — дня прыняцьця Канстытуцыі, якая абвесьціла Беларусь прэзыдэнцкай рэспублікай. З прыняцьцем Канстытуцыі распачалася гісторыя Трэцяй рэспублікі, якая канчаткова пала ў выніку дзяржаўнага перавароту 24 лістапада 1996 году.

Надалей тэрмін “рэспубліка” адносна Беларусі пераўтвараецца ў эўфэмізм і зьяўляецца хутчэй сынонімам тэрміну “краіна”. Бо ліквідацыя прадстаўнічай улады й незалежнага суда, наданьне галаве дзяржавы неабмежаваных паўнамоцтваў часова прыпыняе ў Беларусі функцыянаваньне рэжыму рэспубліканскай улады. Сёньня Беларусь — не рэспубліка! Узнаўленьне рэспублікі ў Беларусі будзе азначаць усталяваньне рэжыму Чацьвертай рэспублікі.

Чацьвертая рэспубліка ня будзе паўторам Трэцяй рэспублікі — ні юрыдычна, ні псыхалягічна. Гэта дыктуецца як самою спэцыфікай пераходу ад дыктатуры да Рэспублікі, так і недасканаласьцю прававой базы Трэцяй рэспублікі, дзе быў закладзены мэханізм самаразбурэньня. Вяртаньне Канстытуцыі 1994 году зьяўлецца неабходным для легітымацыі пераходнага пэрыяду ды падрыхтоўкі новай Канстытуцыі й абраньня новых органаў дзяржаўнага кіраваньня.

Усталяваньне дэмакратычнай формы кіраваньня, адраджэньне Рэспублікі афармляецца ў сучаснай Беларусі ў лёзунг Чацьвертай рэспублікі.

**Алег Дзярновіч**

На выспах Карыбскага мора, у былых францускіх калёніях існуе мова патуа, якая склалася са старафранцускіх дыялектаў паўночнае Францыі з дамешкам архаічнае лексыкі народаў Заходняе Афрыкі. Многія словы патуа ўжо ня йснуюць ні ў Эўропе, ні ў Афрыцы. Паводле старажытнай традыцыі, мове і звычаям у карыбскіх нэграў навучаюць бабулі, якіх, у сваю чаргу, вучылі іхныя бабкі, пакуль бацькі ад сьвітанку да ночы ўраблялі плянтацыі, часам ня бачачы сваіх дзяцей тыднямі. Таму ўнукі тут памятаюць і адчуваюць менавіта так, як адчувалі людзі за пакаленьне да іх. Так выжыла мова патуа й сярэднявечная духоўная культура Трапічнае Афрыкі на Карыбах.

Што мусілі прышчапіць нам нашыя бабкі, каб мы гадаваліся на іхных руках, а не ў ясьлях, дзіцячых садках, "прадлёнках" і ў "акцябрацкіх" зьвеньнях, у кароткія выходныя назіраючы, як бацькі ўвіхаюцца ў хатніх клопатах? Яны б распавялі нам сваё жыцьцё і яно стала б нашым жыцьцём, яны гаварылі б з намі сваёй моваю і яна стала бы нашаю мовай. Нам не давялося б пазьней абіраць сабе веру, шукаць словаў Сакрамэнту, сумнявацца ў сьвятасьці... Гісторыя ўяўлялася б нам непарыўнаю чарадою...

# ВЫБРАНАЕ З ГІСТОРЫІ

*Церкви и приходы Минска (история и современность). — Менск, 1996.*

... Уладыка Мэльхісэдэк ў 1922 годзе ачоліў Праваслаўе ў Беларусі і ў 1927-м абвясьціў Аўтакефалію. Ягонае слова і ягоны дух сягалі так высока, што нават бальшавікі доўга не наважваліся яго зачапіць. Але ў тым жа 1927 годзе Мэльхісэдэк быў высланы, на беларускіх сьвятароў былі абрынутыя рэпрэсіі.

Калі глядзіш на здымак мітрапаліта Мэльхісэдэка (Паеўскага), ня можаш ня думаць пра тое, што гэты чалавек быў варты свайго вялікага імя. Ён нават зьнешне падобны на героя Старога Запавету. Чалавек, які ўзяў на сябе адказнасьць... Дзякуючы дзейнасьці Мэльхісэдэка, беларускае Праваслаўе, нават не дамогшыся поўнае Аўтакефаліі, да 1934 году заставалася асобным ад Масквы (у 1924-34 дзейнічала Аб'яднаньне беларускіх япархіяў абнаўленчае царквы — Беларуская Аўтаномная Праваслаўная Царква). Пасьля 1934 году амаль усе сьвятары, беларусы паводле паходжаньня, былі вынішчаныя, а на іх месца прыбыў "дэсант" з Масквы і Беларуская Праваслаўная Царква была гвалтоўна наноў падпарадкаваная Маскоўскаму Патрыярхату.

На жаль, у кнізе "Церкви и приходы Минска" гэтых фактаў няма, хоць гісторыя царквы выкладаецца падрабязна. Кніга разьлічаная на тое пакаленьне, якое ня мае гістарычнае памяці, і аўтар бярэцца за прэпарацыю гісторыі, вымаючы зь яе кавалкі.

Аўтар гістарычнага нарыса Г.Шэйкін нагадвае, што ў 1941 годзе ў Менск пачалі прыбываць беларускія сьвятары менавіта з Захаду краіны, але ня згадвае пра другое абвяшчэньне Аўтакефаліі заступнікам Мэльхісэдэка мітрапалітам Панцеляймонам (Ражноўскім) пасьля скліканьня Сыноду ў 1941 годзе і пра падпарадкаваньне БАПЦ ў 1943-м Беларускай Цэнтральнай Радзе. Выбарачная памяць, выбраная гісторыя...

Калі аўтар апісвае пэрыяд нямецкае акупацыі, ён ледзь стрымліваецца ад словаў удзячнасьці: "... Адраджэньне царкоўнага жыцьця ў горадзе прыпадае на 1941-44 г., калі ён быў акупаваны нямецкім войскам", "... Акупацыя цягнулася 1100 дзён. За гэты час у горадзе былі адчыненыя ўсе праваслаўныя бажніцы, якія захаваліся пасьля пагрому 20-30-х гадоў". Сапраўды, праваслаўная царква ў Беларусі ў гэты час акрыяла. Але прычынаю таму было ня толькі касаваньне сталіншчыны, але й выгнаньне маскоўскае адміністрацыі. Паўстала нарэшце Беларуская царква і ў ёй загучала роднае слова. Праваслаўе ў Беларусі ў 1941-44 г. паводле духу і арыентацыяў радыкальна разышлося з Маскоўскім Патрыярхатам. Можна падзівіцца і таму, што аўтар ніяк не згадаў рэпрэсіяў з боку гітлераўцаў у дачыненьні да насельніцтва і сьвятарства, не сказана і пра ўдзел сьвятароў у супраціве новым акупантам.

А падрабязна пішучы пра татальныя паваенныя рэпрэсіі, аўтар ня згавае пра тое, што нашых сьвятароў, якія не пасьпелі ў эміграцыю, зьнішчалі не за праваслаўнасьць, а за беларускасьць. Не прыгадалася аўтару, адкуль пазьней былі завезеныя ў Менск новыя сьвятары: архіяпіскап Васіль (Ратміраў), мітрапаліт Піцірым (Сьвірыдаў) і гэтак далей — да Філярэта (Вахрамеева). А вось — проста інсынуацыя: "... Менск стаў катэдральным цэнтрам новага для Беларусі царкоўнага ўтварэньня на чале з Патрыяршым Экзархам (намесьнікам). Другім афіцыйным найменьнем Беларускага Экзархату зьяўляецца "Беларуская Праваслаўная Царква". Дазволю сабе нагадаць аўтару і чытачам, што сёньня афіцыйны назоў праваслаўнае царквы ў Беларусі — "Беларускі Экзархат Маскоўскага Патрыярхату Расейскае Праваслаўнае Царквы".

Ці варта паглыбляцца ў аналіз выкладзенае ў кнізе старасьвецкае гісторыі, калі на тытуле кнігі выяўлены герб Менску з маленькаю датай "1793" — датай акупацыі гораду Расейскай імпэрыяй, пасьля чаго была заснаваная і менская эпархія?.. Што да канцэпцыі гісторыі праваслаўя, то яна просьценькая, як і сто гадоў таму: першыя бажніцы былі праваслаўныя, іх захапілі ўніяты, акаталічылі, апаплячылі расейскі люд, прыйшло вызваленьне ў 1793 годзе і ўсё вярнулася на сваё законнае месца і так будзе надалей.

Калі заходняя і ўсходняя цэрквы ўпершыню разышліся ў 1054 годзе, адкуль у аўтара перакананасьць, што першая менская бажніца была праваслаўнай?

Навуковасьць "рэканструкцыі" першае менскае царквы Лаўровым наогул не падлягае крытыцы, па-першае, таму, што царква не была пабудаваная. Падобнымі "рэканструкцыямі" насычаны і сам тэкст: "паводле паданьня", "паводле некаторых зьвестках", "як вядома". Да прыкладу: "Як сьведчыць паданьне, манастырская царква Спаса-Ўваскрэсеньня (Сьвята-Петра-Паўлаўскага жаночага манастыра. — С.Х.), якая знаходзілася на месцы сучаснага будынка АТ "Белпрампраект" пры лесьвічным сходзе ад пляцу Свабоды да Нямігі, у XVIII ст. была аддадзеная за пазыкі жыдам, якія ўтварылі на гэтым месцы сынагогу"...

Па-першае, на тым месцы, якое вызначыў аўтар (былая вуліца Школьная), сапраўды існавала сынагога зь яшываю (школай, ад якой і атрымала назву вуліца з XVII ст.), самая старая ў Менску, напрыканцы XVI ст. яе драўляны будынак замянілі на мураваны, абсталяваўшы пры ёй рытуальны басэйн для амавеньняў, падчас апошняе вайны яна была зруйнаваная. Па-другое, Сьвята-Петра-Паўлаўскі манастыр сапраўды прадаў жыдам будынак на Нямізе (унікальны помнік готыкі), які атрымаў народную назву "халодная сынагога", хоць ніякае сынагогі ў ім не было. Дзе дакладна месьціўся праваслаўны ЖАНОЧЫ Сьвята-Петра-Паўлаўскі манастыр, невядома (ці існаваў ён наогул?).

Альбо: "Будаўнікі кляштару бэрнардынак узьнесьлі яго менавіта на тым месцы, дзе да пачатку XVII ст. існаваў праваслаўны манастыр..." У гэтым выпадку сэнс "гістарычнае" даведкі зразумелы — трэба абгрунтаваць, чаму галоўны праваслаўны сабор Беларусі месьціцца ў касьцёле, які да таго 227 гадоў належаў бэрнардынкам, пакуль расейцы іх ня выгналі... Цяпер гэты помнік нібыта трапляе ў сьпіс гістарычных дзейных цэркваў, які быў папоўнены за кошт Крыжовае царквы ў Эпархіі, якая была заснаваная ў 1985 годзе. Такім чынам гістарычнымі ў Менску аўтары налічылі пяць цэркваў...




Не патрапілі ў кнігу зьвесткі пра старажытную Пятніцкую царкву, зямлю якое набыў у 1614 годзе мула Сулейман, і з таго часу Пятніцкі канец стаў звацца Татарскім, а царкву урэшце разабралі. Пра тое, што Кацярына падаравала царкве Пятра і Паўла некалькі сукняў са свайго гардэробу, паставіўшы на чале менскае эпархіі аднаго з Пацёмкіных, былых ужо не ў фаворы, на зьдзек у горадзе, дзе жыла пара дзясяткаў праваслаўных сем'яў. Пра тое, што гэтай жа царкве Павал I ахвяраваў пару падсьвечнікаў і грошы...

У астатніх разьдзелах кнігі разьмешчана шмат карыснае інфармацыі для тых, каго цікавіць далейшы лёс праваслаўнае царквы. Упершыню чытач можа пазнаёміцца з плянамі пашырэньня сеткі прыходаў і праектамі будучых цэркваў. З гэтага разьдзелу вынікае, што Расейская Праваслаўная Царква не зьбіраецца надалей трываць сёньняшняга стану, калі ў Менску колькасьць яе прыходаў роўная колькасьці каталіцкіх (рыма-каталіцкіх парафіяў — 4, беларуска-каталіцкіх — 2) і шматкроць меншая за колькасьць пратэстанцкіх. Паводле праграмы пэрспэктыўнага разьвіцьця, у Менску колькасьць праваслаўных прыходаў мусіць быць даведзеная да 16, плянуецца пабудаваць яшчэ 10 бажніцаў, школы, дамы міласэрнасьці. Сетка прыходаў павінна больш-менш раўнастайна ахапіць увесь Менск ад Паўднёвага Захаду да Чыжоўкі.

Праекты, здымкі якіх зьмешчаныя ў кнізе, выклікаюць пытаньні. Хто аўтар гэтых праектаў? Альбо: чаму ў мікрараёне Серабранка Сьвята-Андрэеўская царква будзе мець выгляд узору пскоўска-ноўгарадзкага дойлідства XII-XIII ст.?

Тое, што бажніцы традыцыйнае канфэсіі лягічна будуць мець традыцыяналісцкі выгляд, не зьдзіўляе. Зьдзіўляе шырокае поле кампіляцыяў зь небеларускіх традыцыяў (гэта тычыцца ня толькі Менску): ад чарнігаўскае школы XI-XII ст. да ўладзімера-суздальскае XVI-XVII ст. Часам аўтары праектаў выяўляюць няведаньне асноўных прынцыпаў формаўтварэньня старажытнае архітэктуры, напрыклад, у праекце Сьвята-Георгіеўскае бажніцы на вуліцы Галадзеда, дзе крыніцы натуральнага сьвятла разьмешчаныя ня ў сьценах, а ў прасьценках і па кутах, парушаючы лёгіку архітэктонікі. Слабое ўяўленьне праектантамі пра чужыя традыцыі, ігнараваньне ўласных, пагражае пераўтварыць будаўнічую праграму Маскоўскага Патрыярхату ў Менску ў экстэнсіўную прапаганду кепскага густу, якая па інэрцыі будзе падхопленая па ўсёй краіне.

Ня маючы трывалае гістарычнае памяці, ня маючы моўнае і рэлігійнае еднасьці, беларусы ў чарговы раз становяцца аб'ектам беспрэцэдэнтнае культурнае экспансіі. Фактычна дзеля гэтага і выдадзеная кніга "Церкви и приходы..." — высокага паліграфічнага ўзроўню, добра ілюстраваная, з падрабязным даведачным апаратам.

**Сяргей Харэўскі**

# ДЗЕЦІ НЕЎТАЙМАВАНАЙ ГАРДЫНІ

Ці гордыя людзі беларусы? Калі вы сёньня запытаецеся пра гэта ў саміх беларусаў, наўрад ці хто вам адкажа станоўча. Ну як жа, вядома, — рахманыя, памяркоўныя, талерантныя, нехлямяжыя. Набор традыцыйны. І самому беларусу, і небеларусам, якія гадаваліся на прасторы былога Саюзу, звыкла было чуць пра тое, што гордымі могуць быць толькі дзеці Каўказу, таксама як вялікай можа быць толькі Расея.

Стэрэатып засеў стрэмкаю ў мазгах. Але ж калі годнасьць нацыі не выяўляецца нармальным чынам, то яна, яе энэргія, трансфармуецца і выходзіць іншым бокам. Бо "няма такога, каб нешта зьнікала. Калі нешта недзе адымецца, то значыць абавязкова недзе прыбавіцца" (Казьма Пруткоў).

Так і з годнасьцю беларусаў. Калі гэта дачыненьні зь людзьмі іншых нацыянальнасьцяў, беларусы звычайна займаюць другую ролю, так ім прасьцей і спакайней. Спакой сканчаецца, калі іншаземцаў няма і паўстае праблема лідэрства сярод уласна беларусаў, у іх асяродку. Вось тут скалечаная нацыянальная гордасьць праяўляецца з такім размахам, што проста дзіва. Гордасьць перарастае ў гардыню з усімі нэгатыўнымі наступствамі. Ці то на ўзроўні звычайнага калхозу, ці на ўзроўні нацыянальным, сярод тых, хто прымае рашэньні, якія вызначаюць лёс нацыі.

Такую трансфармацыю заціснутай гордасьці ў гардыню кожны, калі задумаецца, знойдзе ў сабе самім. Калі цяжка, калі нехта нядобры наверсе, то беларусы больш-менш трымаюцца разам, як нядобрага няма — больш разьяднаных за беларусаў знайсьці цяжка.

Што тычыцца палітыкі пэрыяду незалежнасьці, то яна наскрозь працятая гардыняй яе айчынных суб'ектаў. Спачатку Пазьняк не лічыў за дэмакрата Шушкевіча, потым Кебіч ня здолеў дамовіцца з Шушкевічам, пасьля людзі Шушкевіча ставілі ножкі Карпенку, урэшце прыйшоў Лукашэнка і сказаў, што ён, вядома, беларус, але канечна і расіянін, таму што радзіўся на самай мяжы з Расеяй...

Вялікі грэх беларусаў — гардыня — ізноў заняў сваё месца ў іхным жыцьці. Беларусы — народ ня горды. Гэты народ — супэрганарлівы.

**Алег Дашкевіч**

Тацяна Ждановіч

# Рэха забытага Гораду

Нічога ня здарылася. Проста прыйшоў ліст. Ад Марыны Віктараўны. З Расеі. Праз год.

Тады мы разам зьяжджалі з Горада на аўтобусе, які ня значыўся ў раскладах. Раскладаў там больш не было. Сьвяціла сонца. Зіма ўпівалася моцным марозам. Кіроўца моўчкі корпаўся ў маторы, правяраючы нешта ў жалезе. Я круціла ў руках дробную жалезіну, знойдзеную побач, у каменьні. Жалезінка потым стане сувэнірам.

Ад'яжджаць не хацелася... І тут у аўтобус увайшла яна. Села побач, уладкавала рэчы. Ніхто тады ня ведаў, што мы прагаворым чатыры гадзіны шляху. Што гэткай жа, толькі хмурнай і слотнай, млявай, бязвольнай, ужо нашай, менскай раніцай да яе напішацца ліст, на які я перастану чакаць адказу. Але ён прыйшоў...

Ліст прыйшоў ужо ў іншую краіну, а калі раптам будзе яшчэ адзін, краіна будзе зноў ня тою. Расея і Беларусь тады, ССР цяпер. ССР і Чачэнія. У якую яшчэ тады на мяжы з Расеяй спрабавалі запатрабаваць візы. Тыя, хто абараняў "цэласнасьць".

Марына Віктараўна нічога не абараняла. І ні за што не змагалася. Яна не магла зразумець, чаму Горад трэба пакінуць. Тут была яе радзіма. Нават да нацыянальнага багацьця якой яе сям'я мела дачыненьне. З той прычыны, што бацькі і дзядзька зь цёткай калісьці распрацоўвалі праекты нафтавых скважын.

Адзін з братоў бацькі Марыны Віктараўны, той, што стаяў ля вытокаў чачэнскае шафты, пазьней быў рэпрэсаваны Сталіным. Асуджаны на сьмерць. Таму для іхняй сям'і магчымае вяртаньне ў "савецкі рай" — успамін ня толькі пра "стабільнасьць".

— Ну і як вам у нас? — спытала яна тады, даведаўшыся, адкуль я.

— Нармальна, — пачала я.

— Нармальна?! Гэта — нармальна?!

У Марыны Віктараўны не было адрасу, акрамя "паштамт, да запатрабаваньня". Быў, праўда, дом другога яе дзядзькі, нерэпрэсаванага — тады ў доме рухнула толькі адна сьцяна.

Зараз ліст распавядае пра "ўсе колы чачэнскага пекла": сакавіцкія падзеі 96-га, жнівеньскія... "Нас з Васілём Аляксандравічам ледзь не забіла мінай, што разарвалася крыху вышэй кухоннага вакна. Мы былі ў кухні і цудам выйшлі зь яе за паўхвіліны да выбуху... Гэта было 14 сакавіка, а падзеі доўжыліся з 6-га да 16-га ўключна". Потым, у час зацішша, яны "лячылі жытло", аднаўлялі згарэлыя дакумэнты і працавалі. Яна — на нафтавым прадпрыемстве, яе дзядзька — ў школе. Мне хочацца трапіць на ўрок гісторыі да Васіля Аляксандравіча і паслухаць, пра што пытаюцца ў яго, вайсковага пэнсіянэра, філёляга і гісторыка, грозьненскія дзеці. Што ён гаворыць ім пасьля ўсяго пражытага, засвоенага за савецкім часам, і перажытага ў час незалежнай вялікай Расеі. Што для яго маленькая Чачэнія?

"... Нас захліснула трэцяя ударная хваляй (трэцяе кола пекла) — падзеі з 6-га да 23-га жніўня. Сваёй сілай і дынамікай яны нагадвалі студзень 95-га..." Горад быў фактычна здадзены "баевікам". Ужо ў канцы ліста яна згадае, што тады ў Грозным загінуў брат яе зяця, але штамп "баевікі" для яе — напэўна, проста міжвольнае адчуваньне сытуацыі, калі ні на адным баку няма "сваіх". Хто б ні страляў, усе кулі трапляюць у роднае, і нават сьцены тут здаюцца жывымі. Як казалі старыя бабулькі ў Чачэніі, расейкі, казачкі: "Не дачакаюцца! Ня зьеду адсюль". Хто не дачакаецца? А ўсе, найперш гэтая расейская авіяцыя, а потым усе астатнія. Бо тут магілы бацькоў, сяброўкі — гэткія ж старыя чачэнкі, тут мы і памрэм разам — дай Бог, каб сваёй сьмерцю. Так казалі бабулькі, а вочы іх блішчэлі ўпартасьцю, а душа прасіла слухача. "Нікуды я не паеду ад нашых чачэнаў — за ўсё жыцьцё ніводнай зь імі спрэчкі не было..."

Чытаючы вершы Васіля Аляксандравіча, гэтага чалавека, старога, гатовага на ўсё дзеля сканчэньня вайны (некаторыя вершы прысьвечаныя забітым таварышам — па падвалах, а не акопах), я ўспамінаю вочы маскоўскіх вайсковых чыноўнікаў. Адзін з гэтых генэралаў казаў, што быў супраць баявых дзеяньняў у Чачэніі, другі маляваў мне страшэнныя карціны — і абодва не зрабілі нічога, каб хаця б паспрабаваць спыніць... Адзін сёньня ў сумесным расейска-беларускім урадзе: дапамагае фактычна пашыраць межы імпэрыі. Другі шкадуе, што "нашы ў Аўганістане дзейнічалі ня так" і ставіць у прыклад Тамэрлана. Заваяваўшы Аўганістан у старажытнасьці, той "спачатку стаў сябрам насельніцтву": караў сьмерцю тых са сваёй каманды, хто насельніцтва крыўдзіў, прычым "невзирая на лица". А потым, папоўніўшы свае войска мясцовымі атрадамі, рушыў далей...

Такая згадка расейскага генэрала невыпадковая. Надта ўжо шмат у распрацаваных ім тэорыях расейскай бясьпекі адведзена Беларусі. Надта падрабязна расьпісаная стратэгія "інфармацыйнай вайны" і тактыка заваёваў без баявых дзеяньняў. Ім ненавісная ўсялякая незалежнасьць, мроіцца паўзабыты ГУЛАГ, яны плююць нават на ўласны народ. Але: "Чачэнія — палітычная і стратэгічная памылка".

А Беларусь — "палітычны і стратэгічны посьпех"?

Марына Віктараўна, што вымушаная сёньня жыць у 60 кілямэтрах ад Будзёнаўска, напэўна, ня будзе галасаваць за Шаміля Басаева. Я ня ведаю, за каго яна будзе галасаваць. Але многім расейцам там часам сорамна за прыналежнасьць да гэтай нацыі. Яна казала: "Мы — напалову татары, па веры — былыя савецкія людзі, а радзіма ў нас чачэнская". І ўздыхнула. І добра, што ў яе ёсьць паняцьце "радзіма". Бо для многіх іншых радзіма — Савецкі Саюз, а першае пытаньне для гасьцей: "Вы за каго?" Так сустрэлі мяне на ганку ў Крыме. "За Беларусь — значыць, ня любіце маскалёў?" Не разумею. Не люблю людзей, у якіх няма за душой радзімы, бо менавіта яны першыя кідаюцца помсьціць — за гэтую адсутнасьць. Часта — чужымі рукамі і падманам.

"... 10 жніўня пры выкананьні службовых абавязкаў загінуў родны брат майго зяця — радавы Вячаслаў Халадзінаў 1973 году нараджэньня. Пасьля сканчэньня Іванаўскага політэхнічнага інстытуту, дзе не было вайсковай катэдры, ён быў прызваны ў армію. 30 чалавекам прапанавалі служыць у Валгаградзе, а апынуліся яны ў Чачэніі, у Шалях. У жніўні іх кінулі ў Грозны... Ён быў сумленным і шчырым. Ваяваць у Чачэніі, дзе ішла несумленная вайна — ён не хацеў!"

Сям'я ня можа паверыць, што хлопца няма ў жывых, а "цынк" не ўскрывалі, бо пахаваньне адбывалася толькі праз месяц. У Казахстане, дзе Вячаслаў нарадзіўся і вырас...

Адзін кінарэжысэр з жахам сьцьвярджаў, што на ўласныя вочы бачыў у Маскве архіўныя здымкі з Чачэніі з сапраўднымі "заградатрадамі" накшталт савецкіх у гады вайны. А ў жніўні ля блёк-паста насупраць узарванага Палаца Прэзыдэнта ў Грозным стаяў абгарэлы танк, зь якога тырчэла... рука забітага расейскага салдата. Яна была прыкаваная ланцугом. Праз дзень руку і ланцуг прыбралі, каб не прыцягвалі ўвагу замежных карэспандэнтаў.

"... 14 жніўня кватэра Васіля Аляксандравіча была бітая трэці раз з трэцяга боку. Вялізныя разбурэньні гораду балюча і горка бачыць. Цярпелі ўсе: і рускамоўныя, і тутэйшае насельніцтва. Зноў дзяліліся і кавалкам хлеба, і душэўнай цеплынёй".

І раптам — з клічнікамі, размашыстым почыркам: "Няма кепскіх нацыяў! Ня трэба іх нацкоўваць адна на адну!"

Няма, Марына Віктараўна. І ня трэба. Але тыя расейскія генэралы, што аб'ядноўваюць нас з вамі ў краіну са сталіцай "Масква" — родам зь Беларусі. Яны беларусы — па пашпарце, а па духу — ніхто... Ім хочацца, каб такімі былі ўсе. Трыццаць дзён у падвале, трыццаць гадоў за "жалезнай сьцяной". Розьніца вялікая, але ўсё менш істотная. Як сказаў адзін з генэралаў: "Чачэнія — папярэджаньне нам усім".

Выгнаньнікі Горада вераць, што вернуцца туды. Назаўсёды.

*Менск.*

Ганна Матусэвіч

# Рагнеда

Мы з мужам ехалі ў дальнюю дарогу на лыжах, хоць маглі зайцамі ехаць у электрычцы. Але апошняе стала ўжо нуднай справай. Захацелася нечага новенькага. Уласна кажучы, "новенькае" было нават не забытым старым, ды проста сёньняшнім днём, скіраваным у будучыню.

Мы пачыналі дарогу. Сонца радасна сьляпіла нашыя вочы. Ды хутка я намуляла нагу й паўзла на лыжах без асаблівага энтузіязму, але ж трэ было падтрымліваць мужа.

Ён захацеў скараціць шлях і паехаць агародамі. Выйшла наадварот далей. Я не стрымалася і абазвала сябе дурніцай за тое, што пакарысталася чужым розумам. Бо надта стамілася амаль дзьве гадзіны брысьці дзе па цальнягу, дзе па раскоўзанай машынамі дарозе. А ўперадзе – раптоўны спуск і яшчэ болей стромкі пад'ём. Можна й пазьбегнуць такой ліхой долі. Направа ляжыць хоць і расьсьлізганая, ды ўсё ж роўная дарога. Муж прыпыніўся ў роздуме. Затое я была як заведзеная толькі на адну праграму марыянэтка. Ня бачачы іншай магчымасьці, я наўпрост паляцела з гары. Муж вымушаны быў зрабіць тое самае. Цальнёг, далей стромкая горная скала. Муж гукаў мне, каб ішла далей па сьнегавой раўніне. Я не хацела болей жыць чужым розумам і, скінуўшы лыжы, стала няўзброенымі нагамі заваёўваць горную вяршыню. Я ўскараскалася на самую гару і адтуль ужо ўбачыла рацыю мужа. У некалькіх мэтрах далей ад маёй вяршыні ляжаў спадзісты цальнёг. Мужу зь ягоным высокім ростам была відаць гэтая пакатасьць, а мне з маёй самаўпэўненай нізкаросласьцю – не разгледзець. Я зноў абазвала сябе дурніцай, на гэты раз – шчасьлівай дурніцай. Бо мы ўжо фінішавалі, і я ня помніла пра намуленую нагу.

Я адагрэлася на цёплай печы, і мы зноў рушылі ў двухгадзінны пераход. Па пракладзенай сьцежцы ісьці намнога весялей. Ды яшчэ калі табе пакідаюць прэзэнты на сьнезе: то сэрца са стралой, то Ганку-каханку... Але галоўны прэзэнт за авантурную вандроўку нас чакаў у вясковай краме, дзе мы прыдбалі таннай мукі. Муж зайшоў у памяшканьне, а я вартавала ад свавольных дзяцей нашыя лыжы ды пляцакі. Каб ня ўстыць ад сьцюжы, я стала прыдумваць імя нашай будучай дачушцы. І вырашыла, што назаву яе Рагнедай. Бо зь яе пачнецца рэальнае адраджэньне нашай нацыі.

Мы скончылі дарогу. Зусім маладзенькі маладзік гарэзьліва хаваўся за нашымі сьпінамі.

*Койданава*

Лявон Юрэвіч

# Маска

Падарожжа займае хвілін дваццаць ад аўтобуснай станцыі ў Нью-Ёрку — мінуўшы мястэчка зь літоўскай назвай Сікаўкус, даехаць да гарадка Рутэрфорд, што ў суседнім штаце Нью-Джэрсі. Звычайна я еду сюды па справах: тут знаходзіцца часовая сядзіба Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Але сёньня мяне цікавяць два дні ў чэрвені 1958 году, 28 і 29, калі ў гэтым гарадку ў хаце свайго сябра, лекара і паэта Ўільяма Ўільямса бавіў свае апошнія гадзіны на амэрыканскай зямлі Эзра Паўнд. (Цікава, што і першыя пераклады Паўнда на беларускую мову зьявіліся ў "Запісах" БІНіМ).

У ЗША багата месцаў, зьвязаных зь ягоным імем. Да прыкладу, вашынгтонская вар'ятня Сьв. Элізабэт. Калі паэта-выгнанца гвалтам прывезьлі дадому ўвосені 1945-га, калі паваенны сьвет назіраў за судом над ім, абвінавачаным у здрадзе, у падтрымцы рэжыму Мусаліні праз радыёперадачы з Італіі, калі адвакаты здолелі давесьці суду мэнтальную непаўнавартаснасьць і тым самым выратавалі падсуднага — Сьв. Элізабэт дала яму прытулак на 13 гадоў. І вось, адпушчаны ў траўні 1958, Паўнд спыніўся ў Рутэрфордзе, каб зьехаць у Італію і назаўсёды пакінуць сваю бацькаўшчыну.

У дарогу я ўзяў самую лёгкую для ўспрыняцьця ягоную кнігу —"Абэцэду чытаньня". Яе можна разгарнуць на любым месцы: "Нацыя, якая ня дбае пра разуменьне сваіх мастакоў, зьнікае. Яна перастае рухацца і адно спрабуе выжыць". Або: "Няма сэнсу казаць пра нешта людзям, што ня могуць пабачыць гэта без папярэдняе падказкі". Ці такое: "Перад тым, як вырашыць, чалавек проста дурань ці добры мастак, няблага ня толькі зазначыць "ён уражвае сваёй арыгінальнасьцю", але і спытаць: "ці бачыць ён нешта, чаго мы ня бачым?"

Пазіраю ў зацемненае акно аўтобуса і спрабую ўявіць, як Эзра глядзеў праз краты акенца Сьв. Элізабэт і крычаў: "Вось дзе здраднікі!" Тое было крыкам не чужынца, не экс-патрыёта, што здабыў сабе права і ролю крытыка, а шчырага амэрыканца.

Аўтобус спыняецца, мне сыходзіць. Гарадок Рутэрфорд клясычны для Амэрыкі: адсутнасьць гарадзкога транспарту, лічаныя адзінкі пешаходаў на вуліцах; паўсюль тыя самыя шыльды, што і ў Нью-Ёрку — амэрыканец нідзе не пачуе сябе ня дома. Куды б ты ні прыехаў, ты паўсюль знойдзеш "МакДональдс" з родным гамбургерам, тыя самыя супэрмаркеты і кнігарні. Праўда, ёсьць у ім мілая правінцыйнасьць, нясьпешнасьць, калі здаецца — яшчэ крыху, і ты пачуеш галасы птушак.

Дзівіць, што тут няма бараў — зусім! У горадзе валадараць, здаецца, лютаране, нашчадкі квакераў, на сваіх сьвятах самі ня п'юць і іншым навокал не дазваляюць. Суворасьць трымаюць і ў астатнім. Жарты сказаць: гэбраі ці ня дзесяць гадоў дамагаліся адкрыцьця сынагогі, што для Штатаў проста ўнікальны выпадак! Пра астатніх — праваслаўных там ці што іншае — я й не кажу нават. Але краму з напоямі адшукаць усё ж можна.

Вось чаго я не знайшоў, дык гэта мэты свайго падарожжа. Ніхто ня ведае ані паэта Ўільямса, ані ягонага дому. Зрэшты, ня так істотна. Я спрабую ўявіць апошні дзень Эзры ў гэтым горадзе. Наўрад ці ён носіць улюбёны чорны капялюш з шырачэзнымі палямі, аксамітную марынарку, даўгі хвалепадобны шалік пасьля таго, як тыя сталіся доказам абвінавачаньня ў судзе. Мабыць, да яго нехта прыйшоў. Эзра гаворыць, і ягоны ўладны голас прымушае ўсіх слухаць, гаворыць па звычцы кароткімі, насычанымі сказамі. Ён пытае, спрачаецца, пасьмейваецца, нават рагоча. Пра сябе бадай што не гаворыць, больш узгадвае бацькоў. Яны жылі ў Італіі, і Эзра ня мог іх пакінуць у самоце падчас вайны, ня гледзячы на загад з Вашынгтону. А калі тыя памерлі, было ўжо запозна віртацца ў ЗША.

Каб самому не спазьніцца, сьпяшаюся на аўтобусны прыпынак.

Бацька імагізму, абвешчанага яшчэ ў 1912 годзе, Паўнд верыў у абсалютную свабоду ў выбары тэмаў для паэзіі. Суд з гэтым не пагадзіўся.

Паўнд заклікаў да выкарыстаньня гутарковай мовы, але да слова — дакладнага, ня прыкладнага, адзінага слова. Суд інтэрпрэтаваў ягоныя словы.

Эзра Паўнд казаў, што паэзія мусіць быць яснай, зразумелай, але ў формах верша хаваўся за ўяўныя пераклады з кітайскай мовы, антычнасьці, імітаваў сярэднявечча, дэкаданс; ад яго пачалася мода на танку і хоку. Суд не захацеў разьбірацца.

Усю дарогу дахаты я толькі дзівіўся, што недзе ў тыя самыя часы ў невядомай паэту Беларусі Язэп Пушча напісаў:

*Усе, усе мы носім маскі,*
*Нат скінуць дома баімося.*
*Да сьлёз сьмяемся ў вечар майскі,*
*Да сьлёз сьпяваема ўвосень.*

*Нью-Ёрк.*

ніякі псыхіятар непатрэбны, а патрэбны добры нэўрапатоляг. Я быў ужо мудрэйшы, таму й не спытаўся ў Алейнікава: "А што ж ты мне казаў у 68-м?"

***

У вёсцы, прынаўшы да прыёмніка, я слухаў перадачы "варожых галасоў" пра Сахарава, Салжаніцына ды іншых праваабаронцаў. Прыяжджаючы на сэсіі ва ўнівэрсытэт, шукаў хоць нейкую палітычную апазыцыю. Дайшлі чуткі пра нейкае варушэньне ў Акадэміі, але мне сказалі (людзі зь філязофскіх колаў), што гэта — культурнікі, іх наміткі цікавяць і сымбалі.

Вялікая справа — Пагоня і бел-чырвона-белы сьцяг. Мае вучні ў школе не дадуць схлусіць: я прыносіў у клясу паштоўку з Пагоняй і нацыянальным сьцяжком. Нават у падручніку Абэцэдарскага была Пагоня на рэпрадукцыі вокладкі Статута. Глядзіце, кажу, вось наш герб. Тут, у Менску, маладыя сьпісвалі ў мяне ноты і словы гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сур'ёзнага руху не было, а наміткі і ручнікі мяне не цікавілі. Працуючы ў вёсцы, кожны дзень мог убачыць іх.

Дарэчы, у карных органах склаўся быў пэўны стэрэатып беларускага нацыяналіста. Памятаю, як хапалі маладых на першым мітынгу, што праводзіўся на пляцы Волі і быў скіраваны супраць разбурэньня першага менскага тэатру. Дык вось, хапалі іх і дастаўлялі на пастарунак. Вінцук Вячорка пасьля апавядаў, што там адбывалася. Сядзіць нейкі міліцэйскі чын і чытае інструкцыю накшталт біялягічнага вызначальніка, скажам, інсэктаў: "Выгалены-выстрыжаны, грыва — панк! Валасаты-няголены, у залапленых нагавіцах — хіпі! Вышываная кашуля — нацыяналіст!" А тут сядзяць Вінцук ды іншыя хлопцы, апраненыя па-сучаснаму, ніякіх вышываных кашуль... і нацыяналісты. Міліцыянт быў зьбянтэжаны. Калі б усе гэтыя "культурнікі" вывучалі палітычныя тэорыі, займаліся праваабарончай дзейнасьцю — іншае трапіла б у той апазнавальнік. Інакш разгортваліся б падзеі. А так атрымалася, што ў першым сойме БНФ, як я сьмяяўся, было аддзяленьне Саюзу мастакоў і сэкцыя Саюзу пісьменьнікаў.

Палітыцы нашы патрыёты-нацыяналісты не вучыліся. Не маглі адрозьніць камунізм ад сацыял-дэмакратыі, лібэралізм — ад кансэрватызму і многае іншае. У былой Ленінцы некаторых беларускіх дзеячоў можна было сустрэць толькі ў беларускім аддзеле, а вось у аддзел грамадазнаўчых навукаў, куды прыходзілі, скажам, агляды Інстытута навуковай інфармацыі па грамадзкіх навуках, беларускія дзеячы не заходзілі. А там можна было многае вычытаць, знайсьці шмат цікавых кніг. Палітыцы не вучыліся. Цяпер палітыка іх правучвае. Вось гэта першы мой дакор і старэйшым, і аднагодкам.

Працуючы ў Віленскім акадэмічным архіве, я быў непрыемна ўражаны. На папках з гістарычнымі дакумэнтамі я сустракаў прозьвішчы паважаных людзей і, не сумняваюся, патрыётаў. У папках былі паперы Луцкевічаў, Ластоўскага, Смоліча, іншых дзеячоў беларускага руху. І ніхто з тых філёлягаў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў не перапісаў, не сфатаграфаваў тыя дакумэнты. Яны зьбіралі матэрыялы для дысэртацыяў і манаграфіяў. Калі зьнікалі цэнзурныя забароны, практычна ніхто зь іх і нідзе не апублікаваў ніводнага дакумэнту з палітычнае гісторыі Беларусі. У шуфлядах яны нічога не хавалі. Гэта ўжо не дакор. Гэта — папрок старэйшым і аднагодкам.

**Публікацыю падрыхтавалі Ларыса Андросік і Алег Дзярновіч.**

* *Блейлер Ойген (Bleuler Eugen; 1857-1939) — швэйцарскі псыхіятр і псыхоляг. У 1911 г. апісаў шызафрэнію як самастойнае захворваньне.*

***сульфазына — прэпарат, што ўтрымлівае серу. Ужываецца пры сыфілісе, пры млосьці, пры скурных захворваньнях (кароста й іншыя), а таксама як аслабляльнае. У савецкай псыхіятрыі ўжываўся як карны сродак супраць непакорных. Прэпарат уводзіўся праз сядаліща. Выклікаў жудасныя болі. Рассмоктваўся ў арганізьме вельмі павольна.*

****аміназына — агульназаспакаяльны прэпарат, расслабляе мышцы мускулатуры, пры вялікіх дозах узмацняе дзеяньне сонных і анальгетыкаў.*

*****інсуліна — рэгулюе вугляводы, абмен рэчываў, палягчае пранікненьне глюкозы ў клеткі. Агульнаўзмацняльны прэпарат. Выклікае памяншэньне цукру.*

# КУЛЯ ПРАЙШЛА ПРАЗЬ ДЗЬВЕРЫ

*Партызанскімі сьцежкамі — III**

Савецка-партыйнае кіраўніцтва не магло разгарнуць у Заходняй Беларусі свайго масавага партызанскага й падпольнага руху без удзелу ў ім мясцовага насельніцтва, а перадусім — былых сяброў КПЗБ. Апошнія яшчэ ў 1941 годзе шмат дзе ўтварылі антыфашыстоўскія арганізацыі, якія аж да канца 1942 г. ня мелі ніякай сувязі з Масквой. Яны дзейнічалі самастойна й кантактавалі ня толькі з савецкаю, але й з народнаю партызанкай. Аднак вясною-летам 1943-га ў заходняй вобласьці прыбылі камуністычныя абкамы й райкамы, якія падначалілі сабе антыфашыстоўскія камітэты, а іх удзельнікаў пачалі выкарыстоўваць як агентуру ў гарадах і вёсках.



На здымку: Феактыст Міско

Як правіла, сакратар падпольнага райкаму кампартыі разьлічваў атрымаць пасьля прыходу Чырвонае арміі галоўную пасаду ў мясцовай савецка-партыйнай адміністрацыі. Меншыя партызанскія й партыйныя чыны таксама "прыглядвалі" сабе жаданыя месцы будучай працы. Зразумела, што яны не хацелі дапусьціць да ўлады гэткіх небясьпечных канкурэнтаў, як кіраўнікі антыфашыстоўскіх арганізацыяў. А апошнія былі людзьмі папулярнымі сярод насельніцтва, размаўлялі зь сялянамі на роднай мове, а не на расейскай. Баяліся іх ня толькі прыбылыя партыйцы, але й Панамарэнка са сваім штабам, што сядзеў у Маскве. Яны ня ведалі, што рабіць з гэтымі "нацдэмамі" пасьля вызваленьня, але выйсьце было хутка знойдзенае. Пра гібель Я.Урбановіча я ўжо пісаў. На Слонімшчыне падобнай сьмерцю загінуў кіраўнік мясцовага антыфашыстоўскага камітэту Феактыст Міско...

Ф.Міско нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павету ў сялянскай сям'і. Яшчэ юнаком далучыўся да таго падпольнага антыпольскага руху, які ачольвала кампартыя Заходняй Беларусі, за што й быў выключаны зь Віленскай Беларускай Гімназіі. Міско вярнуўся ў родную вёску, працаваў на гаспадарцы, быў сакратаром падпольнага Слонімскага акруговага камітэту камсамолу. За ўдзел у забойстве правакатара ў сакавіку 1930 г. ён быў асуджаны польскім судом на 13 гадоў турмы (усю адказнасьць узяў на сябе, абараняючы сваіх сяброў). Феактыст адбываў свой тэрмін зьняволеньня ў сумнаведамай турме Грудзёндз, каля нямецка-польскай мяжы. Пасьля пераходу турмы да нямецкіх акупацыйных уладаў вязьні былі пераведзеныя ў лягер і іх пачалі выкарыстоўваць для рознае працы.

Улетку 1941 году Ф.Міско ўдалося ўцячы і ён прайшоў пешшу ўсю Польшчу, пакуль вярнуўся на родную Слонімшчыну. Дзякуючы яго намаганьням, быў згрупаваны былы актыў КПЗБ і ўтвораны Слонімскі антыфашыстоўскі камітэт. Ф.Міско трымаў шчыльную сувязь зь Язэпам Урбановічам, які стварыў падобны камітэт на Ружаншчыне, а пасьля арганізаваў "Берасьцейскі камітэт барацьбы зь нямецкімі акупантамі". Антыфашыстоўскія камітэты здабывалі важную разьведвальную інфармацыю для савецкай партызанкі, зьбіралі для яе зброю й боепрыпасы, мэдыкамэнты, папаўнялі атрады сваімі людзьмі. Пасьля правалаў і арыштаў, у лістападзе 1943 году кіраўніцтва Слонімскага антыфашыстоўскага камітэту перабралося ў лес Воўчыя норы, у лягер савецкага партызанскага атраду імя Дзяржынскага, дзе знаходзіўся падпольны райкам КП(б)Б. Пра далейшы лёс Феактыста Міско ўспамінае адзін з кіраўнікоў антыфашыстоўскага камітэту Іван Міско (паэт А.Іверс):

"23 лютага 1944 году партыйны кіраўнік міжрайцэнтру Міхаіл Анішчык у брыгаднай зямлянцы праводзіў нараду. Прысутнічалі там і я з Ф.Міско, стаялі недалёка ад акенца пры дзьвярным вушаку. А далей, у глыб зямлянкі, стаяў стол і там сядзелі камандзіры. Раптам за дзьвярыма пачуўся "сухі" стрэл і Феактыст пачаў падаць на мяне. Я й яшчэ пару хлопцаў падхапілі яго на рукі. Праз хвілін пяць ён памёр...

Зь пісталета страляла Анішчыкава радыстка Яўгенія Валахановіч ("Вольга"), якая ішла каля зямлянкі. Куля прайшла праз дзьверы каля самага акенца... Партызаны тут жа хацелі расправіцца з радысткай, але Анішчык не дазволіў, загадаў пасадзіць яе ў асобную зямлянку й паставіў узброеную варту.

Дакладнага сьледзтва не праводзілася. Анішчык пагадзіўся з тым, што гэта быў "выпадковы" стрэл. Партыйны кіраўнік адправіў забойцу з групай партызан на захад, дзе яна нібыта загінула".



Забітага кіраўніка Слонімскага раённага антыфашыстоўскага камітэту нават не пахавалі з той пашанай, якую ён заслугоўваў. Савецкія партыйцы пашкадавалі новую кашулю — з тых, якія для каманднага складу шыліся з парашутнага шоўку, і Феактыста Міско пахавалі ў адзеньні, залітым крывёю...

Адразу ўспамінаюцца словы аднаго былога савецкага партызана: "Мы былі ім патрэбныя як "гарматнае мяса". А Іван Міско дадае: "Відаць, што была нейкая палітыка на зьнішчэньне нашых актыўных людзей, якія пасьля вайны маглі адыграць вялікую ролю ў дэмакратычным разьвіцьці Беларусі... І я лічу, што радыстка Валахановіч невыпадкова (гэта ўсё зьвялі на выпадковасьць) Феактыста забіла. Гэта, відаць, ужо была нейкая каманда такая, тайная. Анішчык баяўся яго, бо бачыў у ім канкурэнта... Гэтыя партыйцы на нас неяк крыва глядзелі. Ведалі, што мы не стопрацэнтовыя сталінцы. Але бяз нас яны не маглі..."

Што ўжо казаць пра шараговых партызанаў і падпольшчыкаў, калі гэтак бязьлітасна й адкрыта нішчыліся кіраўнікі антыфашыстоўскага падпольля?! Іх жыцьці нічога не каштавалі, а лёсы былі ўжо перадвырашаныя...

Яшчэ задоўга да прыходу Чырвонае арміі савецкае партызанскае кіраўніцтва падрыхтавала сьпісы тых партызанаў, якіх меркавала пакінуць на "вызвалены" тэрыторыі. Гэтага "не были достойны" былыя паліцыянты, самаахоўцы, удзельнікі Беларускае народнае партызанкі ды іншы "ненадежный элемент". На фронт павінен быў пайсьці амаль увесь шараговы склад савецкіх партызанскіх атрадаў.

Былы партызанскі разьведчык Канстанцін Важэйка ўспамінае пра трагічны лёс партызанаў Ленінскай брыгады (дзейнічала на Гарадзеншчыне):

"Як было летам 1944 году? Партызанаў адпраўлялі ў штрафныя роты... Тым партызанам, якіх пакідалі тут на работу, далі адпаведныя даведкі (сярод іншых і я), а астатніх — усіх на фронт! А партызаны рваліся на фронт, дабраахвотна хацелі туды, каб помсьціць...

Сабралі партызанаў у лесе, некалькі соцень. Мне й нейкаму афіцэру — партызану "Смаленскаму" (ён родам са Смаленшчыны) далі сьпіс тых партызанаў і пакет, каб той, хто іх будзе прынімаць, на ім расьпісаўся. Партызаны ішлі з ахвотаю, у сваёй адзежы й са сваёй зброяй. Прыйшлі мы ў штрафную роту...

Памятаю я, што на тым баку рэчкі Зэльвянкі былі нямецкія пазыцыі, а на гэты бок замацаваліся штрафнікі... Камандзірам штрафной роты быў нейкі капітан-"турэмшчык". Мы яму аддалі пакет, ён падпісаў. "Стройся, ё... в рот!" — крычыць на партызанаў. Гэтыя строяцца, а мы стаім збоку, "Смаленскі" і я. А як яны пастроіліся, а той убачыў, што мы збоку стаім, закрычаў: "І вы, ё..., становитесь!" Гэты "Смаленскі" гаворыць: "Мы ня станем, нам трэба назад вярнуцца". А ён: "А ну, ё..., тоже становитесь!" І дастае пісталет. А "Смаленскі" гаворыць: "Схавай пісталет, а то я цябе зараз з аўтамата як шарахну!" (А старыя штрафнікі гавораць: "Бі яго, бі!" Ён іх ужо замучыў). Гавару я яму: "Схавай пісталет, я табе апошні раз гавару, а то заб'ю!" Схаваў. Ён думаў, што нас, партызан, напалохае!..

Што зь імі было далей? Назаўтра яны амаль усе й загінулі. Там жа, на Зэльвянцы... Немцы ў акопах сядзелі, а камандзір камандуе: "Узяць штурмам!" Партызанаў пагналі ў тую рэчку й іх там пабілі. Вада чырвоная была... Некаторыя засталіся ў жывых, то прыходзілі й расказвалі, як гінулі партызаны, нават не пераапранутыя ў вайсковую форму..."

Тыя партызаны, што ацалелі ў штрафных ротах і дайшлі да Нямеччыны, ужо ня мелі ілюзіяў наконт "гуманнай" савецкай улады і ейных мерапрыемстваў на Бацькаўшчыне. Былі й такія, што шукалі шчасьця на Захадзе, уцякаючы з Чырвонае арміі да альянтаў. Сьцяпан Янушка ўспамінае: "Хацеў перабрацца да амэрыканцаў у Чэхіі, але нашая частка не дайшла да іх некалькі дзясяткаў кілямэтраў. Я не рашыўся на гэты рызыкоўны крок, палічыўшы, што будзе магчымасьць перабіцца да іх на Далёкім Усходзе. Але й там мне не пашанцавала. Прыйшлося застацца ў "савецкім раі"...

**Сяргей Ёрш**

**Працяг сэрыі матэрыялаў. Пачатак у №37 за 1996 і №1-2 за 1997 год.*




## ПАДЗЕІ ГОДУ

325 гадоў таму (1672) нарадзіўся апошні мараканскі імпэратар Шарыфскай дынастыі, якога празвалі Крывасмокам. У 1703 г. ён быў бацькам 525 сыноў і 342 дачок.

50 гадоў таму нарадзіўся амэрыканец Рон Ален, які ў жніўні 1984-га падняў 113,4 кг і схуднеў на 9,7 кг на працягу 24 гадзінаў. Адбылося гэта ў Нашвіле, штат Тэнэсі, ЗША.

50 гадоў таму памерла амэрыканка Элен Біч Ё, якая 19 студзеня 1896 году ў Карнэгі-Хол (Нью-Ёрк) узяла самую высокую ноту мі 4-й актавы голасам альт-альтысіма.

**СТУДЗЕНЬ**

175 гадоў таму ў Горадні была закладзеная тытунёвая фабрыка.

125 гадоў, як на Добрушскай папяровай фабрыцы пачалі вытворчасьць паперы.

Заснаваў фабрыку князь Фёдар Паскевіч. Паводле свае тэхнічнае аснашчанасьці і ўзроўню прыбытку яна стаяла ў адным шэрагу зь першаклясными фабрыкамі Расеі і Заходняй Эўропы. Сыравінай служылі анучы, салома і асіна. Фабрыка выпускала друкарскую ды іншыя віды паперы. У вытворчасьці выкарыстоўвалася вадзяная сіла ракі Іпуці. У 1881 г. тут працавала 900 чалавек, а ў 1900-м — 1276. Мэдычная абслуга і мэдыкамэнты для працаўнікоў былі бясплатнымі.

50 гадоў назад выйшаў зборнік Янкі Купалы "Спадчына", які быў факсымільна перавыдадзены ў 1992.

Самы працяглы зарэгістраваны выпадак ікаўкі здарыўся з Чарлзам Озбарнам з Энтана (Аёва, ЗША). Ён ікае апошнія 75 гадоў са студзеня 1922 г. Прыступ пачаўся ў момант, калі ён рэзаў парсюка. З тых часоў ён так і ня змог вылечыцца, хоць жыў нармальна, быў двойчы жанаты і мае 8 дзяцей. Ён прызнаецца, што з-за ікаўкі ў яго ў роце не трымаюцца штучныя сківіцы. У ліпені 1996 году ён ікаў 20 разоў ў хвіліну, ранейшы ягоны рэкорд — 40.

***26 студзеня***

25 гадоў таму Весна Вулавіч (Югаславія), сьцюардэса авіяляйнэра DC-9, які ўзарваўся на вышыні 10160 м над Сэрбска-Каменіцэ (Чэха-Славакія), засталася жывой пасьля падзеньня без парашута.

***29 студзеня***

50 гадоў таму памёр балівійскі алавянны магнат Сымон Ітурбі Паціньё, які вядомы тым, што даў сваёй дачцы Алене самы вялікі з усіх публічна заяўленых пасагаў. Ён даў ёй 8 млн. фунтаў стэрлінгаў з свайго агульнага капіталу ў 125 млн. фунтаў.

***30 студзеня***

50 гадоў таму ў Менску адкрыўся Інстытут Беларускае Культуры, які пазьнейператворыцца ў Акадэмію Навук.

***31 студзеня***

200-я ўгодкі аўстрыйскага кампазытара Франца Шубэрта, які памёр на 32-м годзе жыцьця, пакідаючы сваю восьмую сымфонію h-moll "Няскончанай".

**ЛЮТЫ**

У 1947-м на Менскім велазаводзе быў сабраны першы ровар.

***3 лютага***

150-я ўгодкі сьмерці нямецкага кампазытара Фэлікса Мэндэльсона (нар. у 1809), бацькі якога ў 1816 г. разам зь пераходам зь юдаізму ў хрысьціянства дадалі сабе прозьвішча "Бартольдзі".

***4 лютага***

25 гадоў таму ў Ляйтнінг-Рыдж (Новы Паўднёвы Ўэльс, Аўстралія) быў знойдзены самы вялікі ў сьвеце чорны апал (1520 карат). Уладальнік гэтага каменя Пітэр Грэй.

***7 лютага***

1847 г. У Расеі правялі першую апэрацыю пад эфірным наркозам. Яе правёў прафэсар Ф.Іназемцаў у хірургічнай клініцы Маскоўскага ўнівэрсытэту. Ён апэраваў хворую з пухлінай правай малочнай залозы.

***9 лютага***

100-я ўгодкі І усерасейскага перапісу насельніцтва. У Менску — 90.912 жыхароў.

*Працяг будзе.*

# АЎТАПАРТРЭТ ІНШАГА

*Галерэя візуальных мастацтваў NOVA. Аўтары ідэі і каардынатары Ўладзімер Парфянок і Зьміцер Кароль.*

Выстава экспанавалася ў глядзельнай залі Цэнтральнае бібліятэкі імя Янкі Купалы з 8 сьнежня мінулага году. Ня гледзячы на непрыстасаванасьць памешканьня й невялікі розгалас, яна, тым ня менш, сталася значнай падзеяй у сьвеце беларускага фота-арту.

Выстава складаецца з твораў 23-х майстроў фота. Ніколі раней фотавыставы ня ставілі перад сабою такіх экзыстэнцыйных задачаў — выявіць уласнае "Я", як міт, які належыць ня толькі пэрсоне творцы, але і Іншаму. На думку аўтараў праекту, выстава мусіла б адлюстроўваць "... цікавасьць да тае няўпэўненасьці, узбуджэньня, страху і асалоды, да ўсяе тае напружанае драматургіі твару, якая складае істотную частку нашае штодзённасьці".

Калі пагадзіцца з эўропацэнтрызмам аўтараў праекту, якія адназначна сьцьвярджаюць, што "твар у сыстэме сымбалічнае тапаграфіі эўрапейскае культуры выступае дамінантаю", то мы мусім канстатаваць паводле працаў, якія прадстаўленыя ў экспазыцыі, што беларускія фотамастакі пра гэта не здагадваюцца. Адлюстраваньне ўнікальнасьці ўласнае экзыстэнцыі, а тым больш Твару, як самадастатковасьці, — хутчэй выпадковае выключэньне. Нават аўтарам праекту не ўдалося давесьці сваю думку праз творы, зь якіх яны склалі экспазыцыю.



*Дзяніс Раманюк. Вялікі трон.*

Скрайняя ступень самахаваньня — ад Саўчанкі, які замест Сябе падставіў краявід, да фатаграмы Парфянка, на якой галоўны герой — морская ракаўка, дзе апроч пары рук і кавалку барады больш алюзіяў на аўтапартрэт няма, — сьведчыць за тое, што нашыя фатографы яшчэ не гатовыя да прэзэнтацыі ўласнага "Я".

Экспазыцыя характарызуецца разнастайнасьцю прафэсійных узроўняў, стыляў і зьместаў. Папросту кажучы, няроўнасьцю... Наіўнае "ню" Вязковай альбо прэтэнцыёзнасьць Кароткінай маглі б глядзецца зусім па-іншаму, калі б побач не было працаў Цярэньцева, Баразны, Ганчарова. Збой у ерархіі прыводзіць часам да парадаксальных вынікаў. Аматар Ізотаў аказваецца адным з найбольш удумлівых аўтараў, ствараючы драму свайго вобразу праз уласны твар і рэчы, такія патрэбныя і звычайныя але... вусьцішна абсурдныя. А прафэсіянал Сібрыкаў, які апроч усяго яшчэ і вучыць новыя генэрацыі фотаспраecon, дэманструе поўную творчую бездапаможнасьць, якую толькі падкрэсьлівае ў кадры "прылада працы" фатографа. Альбо: аўтапартрэт Аляксея Смольскага выкананы... Аленай Адамчык. Упершыню ў нашай мастацкай практыцы дастаткова быць суаўтарам, каб патрапіць у сьпіс удзельнікаў выставы. Можна разважаць пра ролю майстра ў стварэньні супольнага шэдэўра, але бясспрэчна, гэтая праца ў найбольшай ступені адпавядае зьместу праекту. Партрэт Смольскага выбіваецца з агульнага рэчышча выставы — фотаапаратаў у люстэрках, задуменных паглядаў, ценяў у капелюхах і бязь іх, ... менавіта адпаведнасьцю выставе.

Зьмест праекту адлюстроўвае досьвед самаўспрыманьня, які палягае на тым, што пабачыць сябе збоку можна толькі заняўшы ў прасторы пазыцыю Іншага.

Дзяніс Раманюк разумее такую задачу амаль літаральна. Ён перадусім складае сцэнар, паводле якога мусіць разгортвацца ягоная дзея. Дыптых "Вялікі трон" і "Малы трон" спараджаюць у гледача дыдактычны асацыятыўны шэраг, бясконцы ў культурнай традыцыі Эўропы. Тонкая сьветамадэліроўка здымкаў нагадвае нам, што аўтар найперш мастак-графік і ён разумее сваю задачу між астатнім і як "зробленасьць".

Гэтак жа "літаратурна" ўспрымаецца і творчасьць Міхала Баразны, кожны здымак якога — частка большага, і толькі ў нізках раскрываецца аўтарская драматургія. Цень аўтара сярод рымскіх руінаў — нібыта выпадкова засьпеты сьведка працэсу стварэньня. Цень ад аўтапартрэту.

Цені, цені, цені...

Але і ў гэтых межах "ценяўтварэньня" працы некаторых майстроў сьведчаць, што сярод новых беларускіх кампіляцыяў з эўрапейскага фота можна ствараць сур'ёзнае мастацтва. Працы Ганчарова апраўдваюць дэпэрсаніфікацыю прыцягальнасьцю казачнае гісторыі, якая заўсёды цікавейшая для гледача за проста чужое "Я".

Эрудыцыя — рэч нялішняя, пра што сьведчыць праца Паўлюця. Эксцэнтрычная статыка аўтапартрэту адсылае нас да амэрыканскага пастановачнага фота 70-80 гадоў. Ньютана, Мілера, Ньюмана... Артыстызм, уласьцівы аўтару, прастата і даходлівасьць кампазыцыі, робяць аўтапартрэт Паўлюця праграмным. Але ці ёсьць працяг у такой праграмы напрыканцы XX стагодзьдзя?

**Сяргей Харэўскі**

# ШТО ЧЫТАЕМ,

*Гэты нумар "НН" працягвае традыцыю апытаньняў, распачатую зь першых нумароў аднаўленае газэты.*

### АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ,

*БСДП "Народная Грамада"*

Збольшага часу хапае, каб чытаць філязофскую, паліталягічную й гістарычную літаратуру, неабходную для працы. Мінулым летам падчас дзіцячых вакацыяў чытаў Вайновіча, Уладзімава, Аксёнава й Куртуазных Маньерыстаў. Люблю перачытваць любімыя кнігі. Зь беларусаў — Стральцова, Гарэцкага, Адамчыка, Брыля. З расейцаў — Пушкіна, Лермантава, Тургенева, Цютчава. З палякаў — Жэромскага. Увогуле, я пад старасьць гадоў зрабіўся талстоўцам — імкнуся чытаць дакумэнтальную й мэмуарную літаратуру. Дарэчы, настойліва рэкамэндую пачытаць успаміны Голды Мэер. А пасьля параўнаць іх з успамінамі Вілі Бранта й Франца Ёзэфа Штраўса... Але самае галоўнае, што я чытаю трывала — гэта Біблія. Яна ёсьць у мяне й на працы, і дома.

### КАСЯ КАМОЦКАЯ,

*гурт "Новае Неба"*

Нядаўна перачытала казку Стругацкіх "Панядзелак пачынаецца ў суботу". Я ўвогуле люблю перачытваць казкі. Што да сур'ёзнай літаратуры, апошнім часам проста не магу яе чытаць. Нават газэты чытаць ня хочацца. Праўда, нядаўна даведалася з газэты, што літаратурная Нобэлеўская прэмія была прысуджаная польскай паэтцы. Зь цікаўнасьці пашукала зборнік Шымборскай у перакладзе Ніны Мацяш. Вельмі ўразілася як якасьцю вершаў, гэтак і якасьцю перакладу.

### АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК,

*фотажурналіст*

Надзвычай дарагой для мяне сталася кніжка, якая называецца "Адзін дзень з жыцьця Ірляндыі". Фантастычная кніга. На працягу дня Ірляндыю здымалі лепшыя фатографы з усяго сьвету. У Беларусі такія экшны ў бліжэйшай будучыні не прадбачацца. У мінулым годзе набываў шмат слоўнікаў, але мастацкую літаратуру амаль не чытаў. Праўда, быў вельмі ўсьцешаны выхадам у сьвет зборніка Натальлі Арсеньневай.

### УЛАДЗІМЕР КОЛАС

*Беларускі Гуманітарны Ліцэй*

Запомніліся трохтомнік Яхіма Фэста "Адольф Гітлер" і кніга Эдуарда Лімонава "Чужаніца ў незнаёмым горадзе". Аўтары розныя, але вартыя параўнаньня. Абодва выкарыстоўваюць выразную філязофскую традыцыю. Першы — нямецкую, другі — расейскую. Абодвух яднае глыбокае пранікненьне ў вызначаную тэму й лёгкасьць і дакладнасьць фармулёвак. Абодвух яднае тэма фашызму. Але, у Фэста атрымаўся антыфашыстоўскі раман, у той час як у Лімонава наадварот. Прычым, у Лімонава адчуваецца нейкае сіроцтва, атрафаванасьць пэўных чалавечых якасьцяў... На жаль, гэты ягоны раман не выпадае з агульнай тэндэнцыі, што запачаткавалася нядаўна ў Расеі. У беларускай літаратуры апошнім часам больш за ўсё зьвяртае на сябе ўвагу эсэістыка. У гэтым жанры мне найбольш імпануюць Валянцін Акудовіч, Уладзімер Арлоў і Адам Глёбус.

### ВОЛЬГА КАРАТКЕВІЧ

*Беларуская Асацыяцыя Незалежнае Тэлевізіі:*

Парадаваў выхад часопіса "Фрагмэнты". Уразілася прачытаньнем твора Мілана Кундэры "Невыносная лёгкасьць быцьця". З паэзіі вельмі спадабаўся адзін зь вершаў зборніка Славаміра Адамовіча "Каханьне пад акупацыяй". Вельмі мужчынскі, мужны верш. Такіх у нас цяпер мала.

### АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

*музэй Максіма Багдановіча:*

Звычайна чытаю адразу некалькі кніжак: адну пачну, другую скончу... Апошняе, што скончыў — "У бязьмежную даль". Зборнік твораў пра Максіма Багдановіча. Але я пра яе казаць ня буду, бо зьбіраюся напісаць рэцэнзію ў "ЛіМ". Хіба што падзялюся ўражаньнем ад крытычнага артыкула Ніла Гілевіча з гэтай кнігі, напісанага трыццаць гадоў таму. Гэта абсалютова несавецкі тэкст, які цалкам выпадае з традыцыйнага школьнага літаратуразнаўства. Яшчэ адно ўражаньне — ад прачытаньня крытычнага артыкула Антона Луцкевіча "Апраўданьне чыстае красы ў творчасьці Максіма Багдановіча". Тэкст быў напісаны ў дваццатыя гады, але, мяркую, ён і дагэтуль застаецца літаратурнай крытыкай вышэйшага кшталту. За апошні час у беларускай літаратуры для мяне цікавымі сталіся дзьве кніжкі: "Толькі не гавары маёй маме..." Адама Глёбуса і зборнік вершаў Эдуарда Акуліна "На Каляды".

### ЗЬМІЦЕР ПАДБЯРЭСКІ,

*газэта "Имя"*

Апошнюю кнігу, якую прачытаў, напісаў мой сябра Сяргей Крапівін. Шкада, забыўся назву... Часу няма нават каб прачытаць газэту, дзе працую. А мастацкую літаратуру не чытаў гады з тры. Апошняе спрычыненьне да кнігаў было такое — перабраў уласную бібліятэку, і тыя кнігі, што ляжалі на шафе, ці пад шафай, склаў у скрыні.

### ІРЫНА КУРАПАТКІНА,

*Радыё 101,2*

Нядаўна перачытала Бродскага, зараз узялася перачытваць Джойсавага "Уліса". Я ўвогуле люблю перачытваць любімыя кнігі. З адкрыцьцяў апошняга часу хачу назваць Кевана Ўілса. Ягоная кніга, прысьвечаная Ір-

# Віслава Шымборска

*Польская паэтка Віслава Шымборска (нар. у 1923 г.) — дзявятая ў сьвеце жанчына, уганараваная літаратурнаю ўзнагародаю Альфрэда Нобэля (1996 г.). Стварае рэфлексійную лірыку, якая засяроджаная вакол экзыстэнцыйных матываў і вызначаецца інтэлектуальнай вынаходлівасьцю й фармальнай віртуознасьцю. Будучы майстрам іроніі, лучыць у творчасьці горыч досьведу з жартаўлівай пабламлівасьцю. Пасьля кніжнага дэбюту ў 1952 г. выдала некалькі зборнікаў, сярод якіх тры найважнейшыя: "Вялікая лічба" (1976), "Людзі на мосьце" (1986), "Канец і пачатак" (1993). У 1991 годзе ў сэрыі "Паэзія народаў сьвету" выйшлі выбраныя творы Віславы Шымборскай па-беларуску ў перакладах Ніны Мацяш ("Сьвет, варты вяртаньня"). Ніжэй друкуюцца некалькі вершаў з пазьнейшае лірыкі леташняй нобэлеўскай ляўрэаткі..*



АДЗЕНЬНЕ

Здымаеш, здымаем, здымаеце
плашчы, жакеты, пінжакі, блюзкі
з воўны, бавоўны, элянабавоўны,
штаны, спадніцы, шкарпэткі, бялізну,
вешаючы, кладучы, перакідаючы празь
сьпінкі крэслаў, крылы шырмаў;
пакуль што, кажа доктар, нічога страшнага.
папрашу адзецца, адпачыць, выехаць,
прымаць у выпадку, калі б, перад сном,
пасьля яды,
паказацца праз квартал, праз год,
праз паўтара;
бачыш, а ты думаў, а мы баяліся,
а ўсе дапускалі, а ён падазраваў;
пара ўжо завязваць, зашпільваць
дрыготкімі шчэ рукамі
шнуркі, кнопкі, "маланкі", спражкі,
раменьчыкі, гузікі, гальштукі, каўняры
і выцягаць з рукавоў, з сумачак, з кішэняў
скамечаны, у кропкі, палоскі, краскі, клеткі,
шалік,
прыдатнасьць якога прадоўжылася раптам.

КОТ У ПУСТОЙ ГАСПОДЗЕ

Сьмерць — яна не прыходзіць кату.
Бо што мае рабіць кот
у пустой гасподзе.
На сьцены драпацца.
Між мэбляю абціраца.
Нічога тут быццам ня зьменена,
і ўсё ж папамяняна.
Быццам не перасунута,
і ўсё ж папарассоўвана.
І вечарамі лямпа ўжо ня сьвеціць.

Чуваць крокі на сходах,
але гэта ня тыя.
Рука, што рыбу кладзе на талерку,
таксама ня тая, што клала.

Нешта не пачынаецца тут
сваёй звычайнай парою.
Нешта ня дзеецца тут,
як павінна.
Нехта тут быў і быў,
пасьля зьнік раптоўна,
і ўпарта яго няма.

Шафы ўсе прагледжаныя.
Паліцы прабяжаныя.
Уціснулася пад дыван — праверыла.
Забарону нат парушыла
і раскідала паперы.

Што ж яшчэ зрабіць.
Спаць і чакаць.

Няхай ён толькі вернецца,
няхай пакажацца.
Ужо ж ён дазнаецца,
што так нельга з катом.
Памаленьку,
як бы зусім неахвотна,
кот будзе йсьці ў яго бок
на вельмі абражаных лапах.
І ніякіх скокаў, піскаў на пачатку.

ПРА СЬМЕРЦЬ БЕЗЬ ПЕРАБОЛЬШАНЬНЯЎ

Ня знаецца на жартах,
на зорках, на мастох,
на горным промысьле, на ткацтве.
на земляробстве
на будаваньні караблёў ды пячэньні пірагоў.

У нашыя размовы пра пляны на заўтра
ўстаўляе сваё апошняе слова
че на тэму.

Ня ўмее нат таго,
што наўпрост зьвязана зь яе прафэсіяй:
ані выкапаць магілы,
ані зьбіць труны,
ані прыбраць за сабою.

Занятая забіваньнем,
робіць гэта няздарна,
без сыстэмы й навыку.
Быццам на кожным з нас вучылася толькі.

Трыюмфы трыюмфамі,
але ж колькі няўдачаў,
нятрапных удараў
і спробаў, чыненых нанова!

Часамі не стае ёй сілы,
каб муху сапхнуць з паветра.
Зь не адным вусенем
прайграе гонку ў поўзаньні.

Усе тыя клубні, струкі,
вусікі, плаўнікі, дыхніцы,
шлюбныя пёры й зімовая поўсьць
сьведчаць пра недаборы
ў яе маруднай працы.

Злой волі недастаткова,
і нат помач нашая ў войнах і пераваротах —
гэта, як дасюль, замала.

Тахкаюць у яйках сэрцы.
Растуць шкілеты немаўлятаў.
Насеньне нажывае два першыя лісткі,
а часта й дрэвы высокія на гарызонце.

Той, хто сьцьвярджае пра яе ўсемагутнасьць,
сам — жывы довад,
што не ўсемагутная яна.

Няма такога жыцьця,
якое б хоць імгненьне
не было несьмяротным.

Сьмерць заўсёды позьніцца
на гэтае мгненьне.

Дарма торгае клямку
нябачных дзьвярэй.
Таго, што ты пасьпеў,
забраць у цябе ня можа.

НІШТО НЕ ДАРАВАНА

Нішто не даравана, пазычана ўсё.
Я па вушы ў даўгох.
Давядзецца сабой заплаціць за сябе,
за жыцьцё аддаць жыцьцё.

Так ужо ўладжана,
што сэрца падлягае вяртаньню
і печані падлягаюць,
і кожны палец паасобку.

Запозна разрываць дагавор.
Даўгі спагнаныя будуць
разам са скурай.

Хаджу па сьвеце
ў натоўпе іншых даўжбітоў.
Адны мусяць
аплаціць свае крылы.
Другія — хочуць ня хочуць
разьлічацца за лісьце.

З боку "Вінен" —
кожная тканка ў нас:
ніводнай вейкі ці жылкі,
каб захаваць назаўжды.

Сьпіс вельмі дакладны,
і, здаецца,
мы застаемся зь нічым.

Не магу прыпомніць,
дзе, калі й нашто
я дазволіла, каб адкрылі мне
гэты рахунак.

Пратэст супраць яго
называецца душою.
І гэта адзінае,
чаго няма ў сьпісе.

**Пераклаў з польскай Юрась Бушлякоў**

ХТО І ЯК РЫХТУЕ НОБЭЛЕЎСКУЮ ЎЗНАГАРОДУ?

# ПАДЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

ная яму ўзнагарода за адкрыцьцё "выпраменьваньня J" — вялікая пляма ў гісторыі нобэлеўскай справы: такога выпраменьваньня папросту ня йснуе...

Аднак найцяжэйшае заданьне стаіць перад камітэтам узнагароды міру: на яго рахунку найбольшая ў гісторыі нобэлеўскай прэміі колькасьць спрэчных вэрдыктаў. Ацэньваньне палітыкаў з сучаснай пэрспэктывы бывае падманлівым. Жорсткай гульні за ўладу можна надаць выгляд "ахвяраваньня для чалавецтва", а сярод людзей, якія кладуць канец пагрозьлівым канфліктам, нярэдка можна спаткаць вінаватых у іх. Заўжды таксама былі выйграныя бітвы, але прайграныя войны. Найбольшым схібеньнем у гісторыі гэтай узнагароды лічыцца прысуджэньне яе ў 1973 годзе Генры Кісэнджэру і Ле Дук Тхо за шматабяцальныя перамовы ў справе міру ў Віетнаме. На жаль, нобэлеўская ўзнагарода не ўвянчала працы: перамоўцы неўзабаве дазналі паразу.

## Старыя, катэгарычныя, сварлівыя?

"Нобэлеўская ўзнагарода старэе!" — вернуць насы апошнім часам крытыкі, спасылаючыся ня толькі на ўзрост (па малым часе, у 2001 г., ёй споўніцца 100 гадоў), але й на такія тыпова старэчыя нядужаньні, як акасьцянеласьць і канфліктавасьць чальцоў журы, а таксама на адарванасьць самой ідэі ўзнагароды ад сучаснасьці. Альфрэд Нобэль верыў, што вялікія індывідуальнасьці ў навуцы, грамадзкім жыцьці і літаратуры зробяць сьвет лепшым. Хацеў пазбавіць геніяў матэрыяльных турботаў, каб маглі свабодна тварыць. Прыгожа, але... За сто гадоў, якія ў сьнежні мінулі пасьля яго сьмерці, сусьветныя і лякальныя войны паглынулі мільёны жыцьцяў. Літаратура ня стала ўлюбёнай настаўніцаю пазытыўных узораў для масавага пераймання, а прагрэс у навуцы перастаў быць клопатам ахвярных адзінак, што экспэрымэнтуюць у малых майстроўнях. Вялікія адкрыцьці робяцца калектывамі, якія выкарыстоўваюць агромністы капітал і вельмі дарагое абсталяваньне, засяроджанае ў найбольшых лябараторыях.

Сьвет, якім яго ўяўляў Нобэль, ня йснуе, але адпаведныя яму крытэрыі прысуджэньня ўзнагароды засталіся. Не зьмяніўся цырыманіял урачыстага ўручэньня, які зласьліўцы называюць апэрэткавым — заўсёды 10 сьнежня, ва ўгодкі сьмерці заснавальніка. Падобна, калі літаратурную ўзнагароду атрымаў Аляксандар Салжаніцын (1970 г.), найбольшай праблемаю было схіліць яго напрануць абавязковы фрак. Аднак перакана́ць не ўдалося — пісьменьнік застаўся ў гэнісцы, якую цырыманіяльны майстар замаскаваў яго густой барадою.

Летась узнагарода складала 7,4 мільёны швэдзкіх каронаў, або 1,12 мільёна даляраў у кожнай з шасьцёх галінаў. Капітал, прызначаны на яе ў тэстамэнце Альфрэда Нобэля, ня быў растрачаны, яго вартасьць роўная цяпер блізу 1 мільярду швэдзкіх каронаў. Узнагароду выплачваюць з працэнтаў ад выгадных укладаньняў (галоўным чынам, у каштоўныя паперы і нерухомасьць), якія робіць фонд, заснаваны у 1900 годзе для рэалізацыі тэстамэнту.

Фонд перабывае ў спакоі. А тым часам няма спакою ў колах, адказных за прысуджэньне ўзнагародаў у галінах, што найбольш моцна хвалююць грамадзкую думку (літаратура, міратворчасьць). Швэдзкая прэса, а ўсьлед за ёй між іншых італьянская, шмат пісалі апошнім часам пра скандальныя нібыта канфлікты ў колах Швэдзкай акадэміі, якая прысуджае літаратурную прэмію. Чуліся шматлікія в навачаньні ў адрас Стурэ Алэна, сталага сакратара Акадэміі, які звычайна абвяшчае прозьвішча ляўрэата. Зь іх паўставаў вобраз катэгарычнага старога інтрыгана, што ўзурпаваў у Акадэміі абсалютную ўладу. Алэн мае 68 гадоў (ён далёка не найстарэйшы, а згодна са статутам, мандат страчвае сілу з моманту сьмерці ўладальніка). Назіральнікі сьцьвярджаюць, што членства ў Акадэміі аўтаматычна гарантуе даўгавечнасьць — яе чальцы жывуць у сярэднім 80-90 гадоў. Найстарэйшы цяпер — 92-гадовы паэт доктар Яганэс Эдфэлт, наймалодзейшая — таксама паэтка, 43-гадовая Катарына Фростэнсан, выбраная ў Акадэмію чатыры гады таму ў атмасфэры сэнсацыі (надта маладая і надта прыгожая).

## Палітычна правільны кандыдат

Тое, што сродкі масавай інфармацыі называюць скандаламі, у колах нобэлеўскай кухні ацэньваецца як непазьбежныя нутраныя канфлікты, якія ня шкодзяць ані Акадэміі, ані правільнасьці яе пастановы. Апошняга разу толькі 14 са статутнага ліку 18-ці акадэмікаў бралі ўдзел у прысуджэньні літаратурнай узнагароды. Раскол у гэтым асяродку адбыўся ў сувязі з канфліктам вакол справы Салмана Рушдзі. Калі Хамэйні абвясьціў сьмяротны прысуд для пісьменьніка, швэдзкія акадэмікі пастанавілі бальшынёю галасоў, што кожны зь іх павінен пратэставаць індывідуальна або як сябра творчага зьвязу, але не ад імя Акадэміі, якая ніколі ў сваёй гісторыі не выступала ў палітычных справах. Не згадзіліся з гэтым і адышлі Ларс Гілэнстэн і Кэрсьцін Экман. Пазьней, матывуючы свае дзеяньні непрыхільнасьцю да празьмерна цікаўных журналістаў, адышоў паэт Вэмэр Аспэнстром, а ў студзені летась прыпыніў удзел у працы Акадэміі Кнут Агнлунд.

— Гэта сапраўдная страта, — сьцьвярджае Міхал Брон, — бо Агнлунд — вялікі знаўца раманскай і лацінаамэрыканскай літаратуры. Трэба аднак усьведамляць псыхічныя нагрузкі, пад якія падпадаюць тыя людзі. Маюць выбраць найлепшага пісьменьніка, але што гэта значыць? Як сумясьціць розныя крытэрыі і чаканьні? Каго б ні выбралі, заўсёды будуць бітыя прыхільнікамі іншых кандыдатаў!

Апошнімі гадамі чальцоў журы ня столькі б'юць, колькі пашчыпваюць і высьмейваюць за адступаньне ад існасьцевых крытэраў у імя прынцыпу палітычнай правільнасьці. Папікаюць ім, што вышэй за талент і даробак ставяць яны расавую, моўную і геапалітычную раўнавагу. Ці гэта кепска? Перад II сусьветнай вайной нобэлеўскіх журыстаў дакаралі за расавую і нацыянальную староннасьць. Там, дзе дзеляцца слава і вялікія грошы, кожнае рашэньне здаецца падазроным.

*Polityka*

**Пераклаў з польскай Ю.Б.**

Найбольш нобэлеўскіх узнагародаў маюць амэрыканцы — звыш 200. Наступныя месцы ў нобэлеўскіх статыстыках займаюць брытанцы, немцы і французы. Чым бліжэй да сёньняшніх дзён, тым большая разнастайнасьць краінаў паходжаньня ляўрэатаў прэміяў за літаратуру і міратворчасьць. Цягам апошніх 20 гадоў, да прыкладу, літаратурная нобэлеўская ўзнагарода адпраўлялася ў ЗША (4 разы (уключаючы Мілаша)), Гішпанію (2), Мэксыку (2), Польшчу (2 (Мілаш — Польшча/ЗША)), Грэцыю, Баўгарыю, Англію, Чэхаславаччыну, Францыю, Нігерыю, Расею, Эгіпет, ПАР, Японію і Ірляндыю.

Сьцяпан Пятровіч прыехаў у сталіцу зь невялікага правінцыйнага гарадка. Царква, касьцёл, дом культуры, унівэрмаг, дзьве крамы — вось і ўсе задавальненьні. Сьцяпан Пятровіч добра вучыўся й пасьля школы паступіў на журфак. Яшчэ студэнтам ён пачаў працаваць у газэтах. Потым неяк сама сабою падвярнулася тэлевізія. І пасхала, і пасхала...

Сьцяпан Пятровіч трымае ў руцэ аркушык. На аркушыку надпіс: ТАБЕ ГАМОН! Сьцяпан Пятровіч думае: ці заяўляць у міліцыю? Можа, гэта недарэчныя жарты? Але чые? Супрацоўнікаў? Немагчыма. Супрацоўнікі — сур'ёзныя, заклапочаныя людзі. Значыцца, гэта нейкі сапраўдны зламысьнік. Нейкі тэрарыст. Значыцца, трэба заяўляць. А тут яшчэ жонка з ідыёцкімі пытаньнямі: што на працы, што на працы? Сьцяпан Пятровіч уключае тэлевізар і глядзіць свой сюжэт са старшынём калгасу. Жонка таксама падыходзіць, яна любіць глядзець мужавы матэрыялы. Сын, 19-гадовы бэйбус, спыняецца ў дзьвярах, каб таксама паглядзець. Раптам Сьцяпана Пятровіча нібыта працінае электрычнасьцю: у чыставы матэрыял невядомым чынам закраліся два словы бруднае старшынёвае лаянкі. Хоць старшыня выкарыстоўваў гэтыя словы "для зьвязкі словаў" і прагаворваў іх даволі невыразна, усе гледачы, відаць, іх пачулі. Прынамсі, сын мярзотна захіхікаў і пайшоў у свой пакой. ЯК ГЭТА МАГЛО ЗДАРЫЦЦА? Усё ж было адгледжана! Ніколі ў жыцьці не было гэткіх ляпаў!

Сьцяпан Пятровіч раіцца з Галяй, даволі маладой жанчынай. Яны сядзяць у галінай кватэры, у гасьцёўні. Сьцяпан Пятровіч распавядае Галі пра свае апошнія беды — пра пагрозы, пра эфірны ляп — пра ўсё. Галя раіць журналісту заявіць, усё ж, у міліцыю. Сьцяпан Пятровіч кажа, што пакуль пачакае. Час даволі позьні, трэба схаць дадому. Але перад ад'ездам Сьцяпан Пятровіч кахаецца з маладой яшчэ жанчынай Галяй. Кахаецца адчайна, нібыта ў апошні раз.

Раніцай разам з прэсай Сьцяпан Пятровіч атрымлівае чарговую цыдулку: ЧАКАЙ. ФІНАЛ БЛІЗКІ. ТАБЕ ГАМОН. Сьцяпан Пятровіч прыяжджае на працу, дзе яго адразу выклікаюць да шэфа. Шэф жорстка й мацерна выгаворвае яму за ляп у эфіры, які абурыў ці насьмяшыў палову краіны. Сьцяпан Пятровіч тлумачыць шэфу, што ўсё гэта з-за пагрозаў, якія ён атрымлівае штодня. ДЫК ЧАГО ТЫ НЕ ЗАЯВІЎ У ОРГАНЫ?! — абураецца шэф. Ён сам выклікае міліцыянта, але ўсё адно Сьцяпан Пятровіч атрымлівае строгую вымову. Праца ёсьць праца.

Дома Сьцяпана Пятровіча чакае чарговыператрус: жонка даведалася пра йснаваньне Галі. З ананімнага тэлефанаваньня. Сьцяпан Пятровіч крычыць, што гэта няпраўда, гэта нейкія інтрыгі зайздросьнікаў. Але жонка дастае з патаемнае шуфляды лісты. Тыя лісты, што Галя пісала Сьцяпану Пятровічу з Крыму летась. Як яна знайшла гэтую шуфляду?! Сьцяпан Пятровіч клянецца, што гэта памылка, гэта ніколі не паўторыцца. Жонка кажа: "Калі паўторыцца, я пайду да твайго кіраўніцтва!" Сьцяпан Пятровіч ніякавее.

Z. азіраецца. Быццам бы нікога. Дзеля поўнае ўпэўненасьці Z. два разы праходзіць уздоўж усяго паркану. Нікога. Як толькі Z. піша першую літару, нехта навальваецца на яго. ЁСЬЦЬ! —крычыць нехта. — УЗЯЛІ! Наручнікі халодна пабліскваюць у месяцовым сьвятле. Z. атрымлівае ў твар, падае сьпінаю на асфальт. ПАСКУДА! ТЭРАРЫСТ Х..Ў! — чуе ён і атрымлівае каваным ботам пад дых.

Сьцяпан Пятровіч адчыняе дзьверы свае кватэры, каб даведацца, што там за крыкі й шум на пляцоўцы. Тры міліцыянты выводзяць суседа Сьцяпана Пятровіча з суседавай кватэры. Той малады чалавек, што так культурна вітаўся са Сьцяпанам Пятровічам, моцна зьбіты, скрываўлены. АКАЗВАЎ СУПРАЦІЎЛЕНЬНЕ, —тлумачыць лейтэнант. — НА СЬЦЕНАХ РОЗНУЮ БРЫДОТУ ПІСАЎ. ТЭРАРЫСТ. ТУТ ЖА, НЕДАЛЁКА. НА ПАРКАНЕ. НУ, ВЫ Ж ВЕДАЕЦЕ ГЭТЫ ПАРКАН?

— Ведаю, — зьбянтэжана азываецца журналіст.

Праз два дні сусед Сьцяпана Пятровіча, ён жа Z., на сьледзтве прызнаўся ў тым, што гэта ён кідаў у паштовую скрыню вядомага журналіста пагрозьлівыя лісты. "ТАБЕ ГАМОН" — узгадаў Сьцяпан Пятровіч. НЯ МНЕ ГАМОН, ТАБЕ ГАМОН, ДАРАЖЭНЬКІ СУСЕДЗЕ, —усьміхаецца вопытны журналіст.

Мінаюць яшчэ два дні. Сьцяпан Пятровіч жыве спакойна, як раней, калі не лічыць лёгкае канфрантацыі з жонкай. Хоць гэтая канфрантацыя паступова вычухаецца (ад Галі давялося адмовіцца).

Сын Сьцяпана Пятровіча, 19-гадовы бэйбус, скончыў мастацкую вучэльню. Ён здымае майстэрню ў рабочым раёне. Адзін кут майстэрні загрувашчаны партрэтамі кіраўнікоў дзяржавы. Кіраўнікі на конях, за стырном трактара, у вобразе касманаўтаў... Сын Сьцяпана Пятровіча ўключае маленькі пераносны тэлевізар і глядзіць навіны. Потым бярэ са стала аркуш паперы, аловак і роўнымі друкаванымі літарамі піша: ТАБЕ ГАМОН!

Занатоўк эгаіста

Адам Глёбус

# ЛАКУНЫ Ў МАІХ СНАХ



Нагадаю, лакуны — страты ў тэксьце. Яны вабяць таемнасьцю, незваротнасьцю, магчымасьцю бясконцых варыяцыяў і цемраю. Чытаеш і правальваесься ў пельку... Знакі адсутнічаюць. Лёгікі няма. Сэнс не зьўляецца, не праяўляецца, не акрэсьліваецца...

***"Калі..., каб (?) змагацца... калі (?) ты... мне, волат будзе забіты. Калі ты пабачыш... глядзі на кракадзіла".*** Фрагмэнт з тэксту на папірусе "Царэвічава наканаваньне" часоў Новага царства, якое існавала ў першым тысячагодзьдзі да нашае эры. Падобнымі лакунамі, абсурдамі, алягічнасьцямі перапоўненыя мае сны.

Бачыўся касьцёл: велізарны, змрочны, недаадрэстаўраваны. Алтар захіналі рыштаваньні. Хто намаляваны на алтарнай сьцяне. Ня бачна. Хрыстос? Дзева Марыя? Бог-бацька?

***Той ня Бог, хто нарадзіўся на нашых вачах...*** Думка Савініа. Як яна апынулася ў сьне?

Ксёндз у залацістым арнаце ходзіць па цэнтральным нэфе як непрыкаяны. Сяляне ў зімовых адзежах сноўдаюць між калёнаў, шукаюць калядныя падарункі. Я з дачкою, Ядзяю. Ёй — тры гады, хоць у сапраўднасьці — трынаццаць. Па вінтавой лесьвіцы ўздымаемся на хоры. Крэсла арганіста пустое. Шолахі. Уздыхі. Шоргат падэшваў. Водгульле крокаў. На падлозе валяюцца пустыя мяхі. "Вам не хапіла падарункаў," — у жанчыны хваравіты твар. У шэрых вачах — спачуваньне. Спазьніліся. На галаве ў яе пуховая хустка. Ёй цёпла. У яе ёсьць падарунак з цукеркамі. Яна — манашка, на баку гаспадара. Набліжаная. Бяскроўная. Белая, як аплатка. Нам халодна... Мне... Лакуна — прагал, адсутнасьць існасьці. Пустэльня. Ноч. Гарачыня. Дарога ў гарах (?).

***"І вось калі асьвяцілася зямля і наступіў другі дзень, прыйшоў..."*** Зноў з "наканаваньня..."

Процьма пабітых аўтамабіляў. У яркіх жоўтых, чырвоных, блакітных, пакарабачаных машынах сьцякаюць крывёю трупы шафёраў. На ўзбочыне гудзе наўтоп. Пасярэдзіне гармідару ўзвышаецца паліцыянт у бурачковай форме. Ён спрабуе супакоіць прысутных выкрыкамі і ўзмахамі доўгіх рук. Абыходжу людзей, машыны, нябожчыкаў і бачу бандыта. Ён сядзіць на мосьце, што навісае над трасаю і творыць аварыі. Прадзіраюся да паліцыянта і спрабую растлумачыць прычыну аварыяў: пра мост, пра бандыта. Не даганяе. Ніхто навокал не разумее ніводнага слова. Трапляю ў пастку чарговай лакуны. Зрываю з паліцыянта фуражку і кідаюся ў бок моста. Бягу. Бандыта няма. Зьнік. Прапаў. Уцёк. Натоўп на чале з даўганогім паліцыянтам набліжаецца. Варожа рыпіць мост. Ён стары, збудаваны з круглых смаляных бярвеньняў. Пад ім на вяроўках пагойдваюцца мяхі, такія ж ляжалі ў касьцёле на хорах...

***Ківач Фуко набыў бы сакральную значнасьць, каб замест груза разгойдваўся труп самазабойцы...*** Зь якога тэксту сказ? Няма калі высьвятляць.

Мяхі разгойдваюцца. Асьцярожна падыходжу. Зь мяха выдзіраецца бандыт. У калматай барадзе разяўляецца пашча з гнілымі ікламі. Жахаюся...

Сон перарываецца. Разьвіднела. Мора ціхае. Неба ў ружовых пёрах воблачнага фламінга. Рана. Можна спаць і спаць. Да сьняданка больш за тры гадзіны.

***"Калі разьвіднела рана раніцою, тады..."*** — пачыналі старажытныя эгіпцяне, а я вярнуўся ў ложак, каб зноў заснуць і бачыць ці ня бачыць (як пашанцуе) сны...

Менск. Цэнтральны ўнівэрсам. П'ю каву. Падыходзіць мулат Эрык. Бацька ў яго кубінскі мурын, маці з тутэйшых. Эрык — звычайны мулат-беларус. Тыдзень таму я паабяцаў Эрыку сустрэчу, на якую не пайшоў. Эрык жабрак, папрашайка... А я ведаю шмат розных спосабаў прыстроіць грошы, акрамя таго, каб аддаць іх чалавеку, няздатнаму зарабляць. На душы ніякаватасьць. Падмануў чалавека. Эрык ня згадвае абяцанкі. Ён выцягвае з валізы на сьвет божы сапфіравае блюда. "Куплю. Трэба есьці, а грошай няма. Скраў блюда. Сапраўдныя сапфіры й золата. Ніхто не купляе. Баяцца..." "Давай выйдзем з унівэрсаму. Людзі азіраюцца..." "Ты ідзі на вуліцу, а я куплю цыгарэты й даганю".

Лета. Гарачыня. Асфальт мяккі, як плаўлены сыр. Вуліца Леніна бязьлюдная. Сядаю на лаўку ў ліповым сквэрыку. Прыходзіць Эрык. Мулат плача — згубіў сапфіравае блюда... Дзе згубіў? Як згубіў? Прачынаюся. Сонца высока.

Можна ўсёператлумачыць, запоўніць страты, падапісваць сказы й зьвязкі паміж падзеямі. Не хачу. Паэзія сноў існуе паміж словамі, між абзацамі, у лакунах.

Калі ты пабачыш — глядзі на кракадзіла.

*Хургада – Менск. 1997 год.*



Здымак Алены Адамчык.

італьянскімі вуснамі. Службовая інструкцыя не дазваляла, каб нейкая машына сядзела на хвасьце больш за паўгадзіны. Іфігенія сьвята шанавала службовыя інструкцыі.

Сусед кіроўцы, відаць, ніколі не расставаўся з чорнымі акулярамі. Пазіраў ён крыху спадылба, прымружыўшы вочы. Сінія, здаецца. Акуляры ляжалі на тым плячы, якое бліжэй да бляндынкі. Іфігеніі было б шкада забіць такога мужчыну.

Жанчына за рулём раздражняла. Усё ў ёй раздражняла. Цёмна-сіні пінжак і каралі раздражнялі. Іфігенія ўяўляла сабе, як туфлі колеру хурмы націскаюць на газ. Нейкія Габрыэле і Эльза. Не, Габі не пасуе, Пэпэ лепей. Нудная Эльза і Пэпэ.

Ля базылікі ніякі д'ябал ня езьдзіць, а "Сааб", вытрымаўшы ветлівую адлегласьць, выкруціў за ёй на Сіманіс. Але пэсымістычна, вельмі пэсымістычна вяла машыну Эльза. У такіх на пальцах нанізана палова таго, што прадаецца на Понтэ-Вэк'ё. Такія доўга не жывуць. Бязвольная морда. Бязвольная смазьлівая морда.

Пасьля базылікі Іфігенія патэлефанавала Бобу. "Не, Боб, мабыць, абодва італьянцы. Жанчына дык дакладна, што не расейка... Што дзякуй Богу? Што дзякуй Богу?.. Едуць за мной дваццаць... Ніяк не рэагуюць. Тэлефон – не Калашнікаў, каб рэагавалі... Не перажывай, праблем ня будзе... Бывай".

Мы па-рознаму ставімся да людзей, цікавых для нас з гледзішча сэксу, і тых, што ў гэтую катэгорыю не ўваходзяць. Лепей бы гэтыя двое ехалі кожны на сваім "Саабе". Усё адно Іфігенія прафэсійных праблем ніколі ня мела.

Чаравічкі тупу-тупу, а пайшлі б вы ў дупу, ў дупу... Кольт! Калі яна заверне за рог гэтай ублюдачнай вуліцы, з "Сааба" яе ня будзе бачна тры сэкунды. Далей два выгодныя рагі па сэкунды чатыры кожны. Прапароць сядзеньне, пісталет – у цёплае месца між ляжкамі. Пад пісталет Іфігенія заўсёды клала памаду. Забабоны... Іфігенія была адным зь лепшых супрацоўнікаў усходняга дэпартамэнту. У лепшых супрацоўнікаў губы заўсёды мусяць быць чырвоныя.

Ну вось ён, нарэшце, парк. Ці лес, як называюць бэльгійцы. Усё, да першага павароту, і прывітаньне. Хоць бы за першым паваротам не апынуўся нейкі скаўцкі лягер. Гэта ж Бэльгія, тут усе бегаюць у кароткіх штоніках. Уся выхаваўчая праца пойдзе насмарку, калі пасярод лягеру дзядзька і цёткі пачнуць страляцца.

Можа, гэтыя на "Саабе" проста хочуць прыкалоцца? Іх праблемы. Рызыкаваць нельга. Шкада Сінявокага. Патэнцыйны баец. Няхай пажыве. Трошкі даўжэй.

Першую кулю – Нуднай, другую – Сінявокаму.

Тормаз дзьверцы пшык... ёсьць!.. дзе Сіня... пабах... пабах... пабах... пабах.

Іфігенія ўпусьціла Сінявокага, і той цяпер не шкадаваў патронаў, прыціскаў Іфігенію да зямлі...

пшыкцьвінк... пабах... пабах.

І раптам цішыня. І задаволены голас:

– Не страляйце, я – Артур!.. Бедная Ліза! А вы не пудлуеце, Іфігенія, трапілі проста ў лоб!..

Аказалася, што ў Баку нялётнае надвор'е, і рэйс перанесены на заўтра. Аказалася, што, на думку Артура, імя Іфігенія добра пасавала б як назва вакзальных клязэтаў. І вось ужо гучыць самі ведаеце што з Шонбэрга. Нежывая Ліза чакае, калі яе знойдзе першы паліцэйскі патруль. Артур і Іфігенія едуць на Вандэркіндэрэстраат. Нібы вечна новыя фільмы, мінаюць дні нашага жыцьця. Ўаў, дні як дні, як тая шматзначная нага з шасьцю пальцамі, якую Іфігенія знайшла ў Амстэрдамскім порце намаляванаю на кардоне і забрала дахаты.




*Зьвяртацца праз* ***тэлефон*** *у Менску 239-78-49, спытаць Віталя;* ***па пошце:*** *220085 Менск, а/с 5, Супрановіч Віталь Канстанцінавіч.*

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Багдановіч М. Выбраныя творы** / Уклад. С.Забродзкай, Э.Золавай і інш. Уступ. словы Н.Гілевіча і А.Бяляцкага. —Менск: "Беларускі кнігазбор", 1996. — 496 с. (4) л. іл. ISBN 985-6318-07-6

**Каўка Аляксей. Жывом!** Старонкамі беларускага самапазнаньня. —Масква-Менск: Выдавецтва Дзядзькі Язэпа, 1997. — 160 с., 6 іл.

**Пяткевіч А. Літаратурная Гродзеншчына:** Публіцыстыка. — Менск: Выд. цэнтар "Бацькаўшчына", 1996.

**Сыны і пасынкі Беларусі** / С.Барыс, С.Тарасаў, Г.Ланеўскі і інш.; уклад. Барыс С. — Менск: Полымя, 1996. — 416 с.: іл. 4200 ас. ISBN 985-07-0026-2

**Гражданский процессуальный кодекс Республики Беларусь:** Текст с изм. и доп. по состоянию на 1 окт. 1996 г. / Вступ. ст. И.Мироничєнко. — Менск: "Амолорес", 1996. — 272 с. 5000 ас. ISBN 985-6015-37-5

**Церкви и Приходы Минска.** — Менск: Свято-Петро-Павловский собор, Белорусское Православное Братство Трех Виленских Мучеников, 1996. — 192 с. 3000 ас. ISBN 985-6143-05-5



## НАВІНКА

Выйшаў другі (пасьля "Выбраных твораў" Яна Чачота) том сэрыі "Беларускі кнігазбор". Гэта "Выбраныя творы" Максіма Багдановіча, куды ўключаныя ўсе найбольш значныя яго творы.

Том паступіў у кнігарні ў абмежаванай колькасьці. Але кнігу можна набыць у Доме літаратара ў пакоі 209. Тэлефон 236-09-09, спытацца сп. Генадзя Вінярскага.



## НАВІНКА

Зьявіўся новы нумар навуковага выданьня KRYUJA, прысьвечанага, як адзначаецца ў падназьве, праблемам Крывікі, Балтыкі, Індагерманікі. KRYUJA — непадобнае на іншыя беларускае выданьне, якое ўводзіць зацікаўленага чытача ў сьвет этнакасмалёгіі.

## НАВІНКА

Аляксей Каўка. Жывом! Старонкамі беларускага самапазнаньня. — Масква-Менск, 1997.

На матэрыяле гісторыі, літаратуры, асабістага досьведу аўтар разважае над праблемамі нацыянальнае самасьвядомасьці, духоўна-культурнае тоеснасьці сваіх суродзічаў.




**На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 30.000 БРБ):**

1. **Новае Неба.** Сон у трамваі (1995).
2. **Новае Неба.** Go home (1995).
3. **Новае Неба.** Дзеці чоргнага гораду (1991).
4. **Крама.** Камэндант (1995).
5. **Крама.** Хворы на Rock-n-Roll.
6. **Крама.** Гэй там налівай! (1994).
7. **N.R.M.** LaLaLa (1995).
8. **Ulis.** Life (1996).
9. **Уліс.** Чужаніца (1991).
10. **Уліс.** Краіна доўгай белай хмары (1990).
11. **Бонда.** Найлепшыя песьні.
12. **Мясцовы час.** Наша ўскраіна (1991).
13. **Палац.** Палац (1996).
14. **Песьні беларускіх бардаў** (1992).
15. **Рэнэсанс** (беларускі джаз).
16. **Беларускія народныя казкі.**
17. **Беларуская музычная літаратура** (т.т. 1-4).
18. **Беларуская гітарная музыка.**
19. **Залаты фонд беларускага рок-н-ролу** (т.т. 1-5).

т.1: Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы Час. Блізьняты.
т.2: Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае Неба. Мясцовы Час. Тутэйшыя хлопцы.
т.3: Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & "Доктор Моро". Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо.
т.4: Палац. Уліс. Крама. Новае Неба. Мроя.
т.5: Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Red Dynamite. Флэт.

20. **Мроя.** Найлепшыя песьні з праграмаў 1987-90 г.
21. **Уліс.** Блуканьне (1996).
22. **Віктар Шалкевіч.** Смутны беларускі блюз (1996).
23. **Камэлот.** У краіне талераў (1995).
24. **Zindan** (1994).
25. **Крама.** The Best (1996).
26. **Андрэй Мельнікаў.** Гэта — Мы! (1996).
27. **NRM.** Одзірыдзідзіна (1996).
28. **Andrej Mielnikau.**
29. **Andrej Mielnikau.**
30. **Andrej Mielnikau.** Uspamin (1994-1995).
31. **Andrej Mielnikau.** Salam Samkam (1993).
32. **Valzyna Ciarescanka** (1991-1995).
33. **Ліцьвіны.** 5 сакавіка (1996).
34. **Беларуская сымфанічная музыка** (1996).

*Зьвяртайцеся праз тэл. 239-78-49. Праз пошту: 220085, Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

